ВЫДАЕ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ У ЗША. РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ.

# БЕЛАРУС

BYELARUS — WHITERUTHENIAN (BYELORUSSIAN) NEWSPAPER

Цана — Price 20¢

BIELARUS 401 ATLANTIC AVE. BROOKLYN 17 NEW YORK, N. Y.

Год IX. № 66-67 | 25 Травеня 1958 г. | NEW YORK, N. Y., U. S. A. | May 25, 1958 | Vol. IX. № 66-67

# 40-я Угодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі

***Ліст Прэзыдэнта Айзэнгауэра. -- Дэлегацыя у Віцэпрэзыдэнта Ніксана. -- Малітва Уладыкі Васіля у Сэнаце. -- Малітва а. Чарняускага у Кангрэсе. -- Прамовы у у Сэнаце й Кангрэсе. -- Праклямацыі Губэрнатарау Штатау. -- Багаслужбы й Акадэміі у Нью Ерку, Чыкага, Кліуленьдзе, Дэтройце, Нью Брансьвіку.***

## МАЛІТВА

*Яго Высокапрэасьвяшчэнства Архіепіскапа БАПЦ Васілія прагытаная 24 Сакавіка 1958 г. ў амэрыканскім Сэнаце.*

У ІМЯ АЙЦА, І СЫНА, І СЬВЯТОГА ДУХА. УСЕМАГУТНЫ БОЖА! ГЭТУЮ МАЛІТВУ НАШУЮ МЫ ПАСЫЛАЕМ ДА ЦЯБЕ У УГОДКІ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ, СВАБОДА ЯКОЕ БЫЛА НЕМІЛАСЭРНА ПАТАПТАНАЯ ГРУБОЮ БЯЗБОЖНАЮ СІЛАЙ, МІЛЁНЫ МУЧАНІКАУ ЯКОЕ ПЕРАД ПАСАДАМ ТВАІМ МОЛЯЦЬ ЦЯБЕ: УЧЫНІ СУД ТВОЙ СПРАВЯДЛІВЫ ГОСПАДЗЕ, ВЯРНІ СВАБОДУ УСІМ НАРОДАМ СЬВЕТУ У НЯВОЛІ.

У ЧАС ТАК УРАЧЫСТЫ МЫ ПРОСІМ ЦЯБЕ, БОЖА И ВОЙЧА НАШ, БУДЗЬ МІЛАСЬЦІВЫ ДА НАС, БО ТЫ ВЯЛІКІ И ЦУДЫ ЧЫНІШ. ЛАСКА ТВАЯ ДА НЯБЕСАУ, А ПРАУДА ДА АБЛОКАУ СЯГАЕ! СПРАВЯДЛІВАСЬЦЬ ТВАЯ — БЫЦЦАМ БОЖЫЯ ГОРЫ, А СУДЫ ТВАЕ — ПРАДОНЬНЕ ВЯЛІКАЕ!

МІЛАСЭРНЫ ВОЙЧА НАШ! ТЫ БЛАСЛАВІУ НАРОД КРАЮ ГЭТАГА. ТЫ ПАМОГ ЯМУ УСТАНАВІЦЬ УЛАДУ З НАРОДУ, НАРОДАМ І ДЛЯ НАРОДУ. ПРАДВЕЧНЫ БОЖА! БЛАСЛАВІ И АХІНІ ЛАСКАЮ ТВАЕЮ ДЗЯРЖАУНЫХ КІРАУНІКОУ КРАЮ ГЭТАГА: ПАМАЖЫ ІМ У ІХ ЗМАГАНЬНІ ЗА ТВАЮ ПРАУДУ И СВАБОДУ ДЛЯ УСЯГО СЬВЕТУ КАБ УСЕ ЛЮДЗІ, ДЗЕЦІ ТВАЕ, МАГЛІ СЛАВІЦЬ ЦЯБЕ У ВОЛЬНЫХ КРАЕХ СВАІХ.

МЫ ШЧЫРА И ГОРАЧА ПРОСІМ ЦЯБЕ, БОЖА И СПАСЕ НАШ, ПРЫЙМІ ГЭТУЮ МАЛІТВУ НАШУЮ, БЛАСЛАВІ ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ АМЭРЫКІ, И БЕЛАРУСЬ!

ХАЙ ЦУДОУНАЕ ІМЯ ТВАЁ, БОЖА И ВОЙЧА НАШ, ПАНУЕ И ЗЬЗЯЕ У СЭРЦАХ НАШЫХ, СЛАВІЦЦА И БЛАСЛАУЛЯЕЦЦА СЯНЬНЯ, І ЗАУСЁДЫ, І НАВЕКІ ВЕЧНЫЯ. АМІН.

—— ✤ ——

## 25 САКАВІКА ў СЭНАЦЕ

Сёлета першы раз у гісторыі Сэнату ЗША прамовамі сэнатараў на Капітолі ў Вашынгтоне быў адзначаны дзень незалежнасьці Беларусі. Беларускі народ з 40-годзьдзем абвешчаньня БНР віталі 25 Сакавіка прамовамі сэнатар Г. Г. Гомфры зь Мінэсоты й сэнатар Ф. Дж. Лёўшы з Огаё. Сэнатар П. Г. Дагляс зь Ілінойс склаў даўжэйшае асьветчаньне.



**БЕЛАРУСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ У НІКСАНА З ПРЫЧЫНЫ СОРАКГОДЗЬДЗЯ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БНР**
**У цэнтры Віцэпрэзыдэнт Ніксан і Уладыка Васілі. Побач Віцэпрэзыдэнта сэнатар І. М. Айвз і а. Ф. Браўн Гаррыс. Побач Уладыкі старшыня БАЗА, Нью-Ёрк, сп. К. Мярляк**

## ПРЫВІТАНЬНЕ ПРЭЗЫДЭНТА АЙЗЭНГАУЭРА

**З нагоды 40-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі прэзыдэнт Айзэнгаўэр пераслаў праз свайго асыстэнта Шэрмана Адамса на рукі старшыні Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. К. Мярляка прывітаньне наступнага зьместу:**

**Прэзыдэнт прасіў мяне перадаць Вам і сябром ды прыяцелям Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ягоныя прывітаньні й найлепшыя пажаданьні ўдачы ў вашым урачыстым сьвяце. Дух зарадлівай дзейнасьці й багатыя здольнасьці ды ўмельства нашых грамадзянаў беларускага паходжаньня зрабілі паважны ўклад у веліч нашага краю.**

**Хоць Вашае ўрачыстае сьвяткаваньне адбываецца сёлета ў мірным часе, трэба заўсёды быць на старожы да небясьпекі, што пагражае міру ў сяньняшнім узьнепакоеным сьвеце. Мы ведаем, што нашыя грамадзяне беларускага паходжаньня біяруць ахвярны ўдзел у намаганьні ўтрымаць наш край дужым і дарыхтаваным.**

## Сьвята Незалежнасьці Беларусі у ЗША

Соракгодзьдзе абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі сёлета было адзначанае асабліва шырака й годна.

У Вашынгтоне з гэтай нагоды найвышэйшыя дастойнікі Амэрыканскага Народу — Прэзыдэнт Айзэнгаўэр і Віцэпрэзыдэнт Ніксан, Амэрыканскі Сэнат і Кангрэс зьвярнулі сваю спагадную ўвагу на долю Беларускага Народу ды выказалі непахісную веру Амэрыкі ў будучае незалежнае жыцьцё Беларусі ў вольнай сям'і свабодных народаў сьвету.

Ад Прэзыдэнта Айзэнгаўэра зь Белага Дому з нагоды сараказгодзьдзя быў высланы ліст Беларуска-Амэрыканскаму Задзіночаньню. Віцэпрэзыдэнт Ніксан прыняў на Капітолі беларускую дэлегацыю.

Наконадні сараковых сакавіковых угодкаў паседжаньне амэрыканскага Сэнату было пачатае малітваю за Беларусь і Амэрыку Яго Высокапрэасьвяшчэнствам Архіепіскапам Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Уладыкам Васілём. З нагоды тыхжа ўгодкаў 31 сакавіка паседжаньне Кангрэсу малітваю пачаў беларускі каталіцкі сьвятар а. Чарняўскі.

У самы дзень 25 Сакавіка дзесяць амэрыканскіх сэнатараў і кангрэсмэнаў ад імя Амэрыканскага Народу віталі ў Сэнаце й Кангрэсе Беларускі Народ з днём ягонае незалежнасьці, выказваю-
да наступнай бал.

## МАЛІТВА

*А. Францішка Чарняўскага, каталіцкага сьвятара, прагытаная 31 Сакавіка 1958 г. у амэрыканскім Кангрэсе.*

БОЖА И ВОЙЧА НАШ, СТВАРЫЦЕЛЬ СУСЬВЕТУ, ЯКІ УСЕ НАРОДЫ АБДАРЫУ ЛЮБОВЯЙ ДА СВАЕ ЗЯМЛІ И СВАБОДЫ, У ГЭТЫЯ САРАКОВЫЯ УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ ПАМАЖЫ НАМ ЗРАЗУМЕЦЬ, ШТО ТОЛЬКІ СВАБОДА ПАД ТВАЕЮ АПЕКАЙ ДАВЯДЗЕ ДА ШЧАСЬЦЯ НАШ КРАЙ І НАРОД. МЫ МОЛІМ ЦЯБЕ, БУДЗЬ МІЛАСЬЦІВЫ ДА НАС, НАШАГА НАРОДУ И НАШАЙ БАЦЬКАУШЧЫНЫ БЕЛАРУСІ, ЯКАЯ ЦЕРПІЦЬ У НЯВОЛІ. ВЯРНІ НАШУЮ ВОЛЮ И НАШ ДАСТАТАК, КАБ МЫ МАГЛІ СВАБОДНА СЛАВІЦЬ ТВАЕ СЬВЯТОЕ ІМЯ.

БЛАСЛАВІ ГЭТЫ ДАРАГІ КРАЙ, ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ АМЭРЫКІ; АСЬВЯЦІ, ЗАХАВАЙ ДЫ КІРУЙ НАШЫХ ДЗЯРЖАУНЫХ МУЖОУ ТАК, КАБ СЬВЯТЛО СВАБОДЫ У ЗАДЗІНОЧАНЫХ ШТАТАХ ГАРЭЛА У СЭРЦАХ ДЫ КАБ ГЭТАЕ ПОЛАМЯ РАЗГАРАЛАСЯ ДЫ АХАПІЛА УСЕ ДЗЯРЖАВЫ И НАРОДЫ.

ВОЙЧА НАШ, ШТО У НЕБЕ, СЬВЯЦІСЯ ІМЯ ТВАЁ; ПРЫЙДЗІ ВАЛАДАРСТВА ТВАЁ; БУДЗЬ ВОЛЯ ТВАЯ, ЯК НА НЕБЕ, ТАК І НА ЗЯМЛІ. ХЛЕБА НАШАГА ШТОДЗЁННАГА ДАЙ НАМ СЯНЬНЯ; І АДПУСЬЦІ НАМ ГРАХІ НАШЫЯ, ЯК І МЫ АДПУШЧАЕМ ВІНАВАТЫМ НАШЫМ; І НЯ УВОДЗЬ НАС У СПАКУСУ; АЛЕ ЗБАЎ НАС АД ЗЛОГА. АМАН.

—— ✤ ——

## 25 САКАВІКА ў КАНГРЭСЕ

Амэрыканскі салют 40-м угодкам абвешчаньня незалежнасьці БНР у Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне сёлета быў асабліва імпазантны. У самы дзень 25 сакавіка прамовамі й асьветчаньнямі ўгодкі незалежнасьці Беларусі ўшанавала 8 кангрэсмэнаў. Наступнымі днямі далучылася да іх шмат іншых. Прывітаньні з днём 25 Сакавіка й свае пажаданьні Беларускаму Народу ў Кангрэсе выказалі С. Б. Дэруніян, В. Л. Анфусо, К. Б. Кітынг, Л. Фарбстын, І. Долінгер, А. Дж. Мюлтэр зь Нью-Ёрку, П. У. Родыно, Г. Дж. Аддоніцыё, В. Дж. Дэлей зь Нью-Джэрсы, Дж. Д. Дынгел, А. М. Бэнтлі, Дж. Лесінскі зь Мічыгэн, Р. Г. Майчэл зь Ілінойс, С. Дж. Заблоцкі зь Вісконсын, Дж. У. Мартын з Масачусэтс, Дж. Рузвэльт з Каліфорніі, М. А. Фіен з Огаё.

# САКАВІКОВЫЯ УГОДКІ У НЬЮ-ЕРКУ

*УРАЧЫСТЫЯ БАГАСЛУЖБЫ Ў САБОРЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА І Ў КАТЭДРЫ СЬВ. ПАТРЫКА. — АКАДЭМІЯ Ў БІЛТМОР ГАТЭЛІ — ВЫСТУПЛЕНЬНЕ ПРЭЗЫДЭНТА БНР МІКОЛЫ АБРАМЧЫКА — 25 САКАВІКА НА РАДЫЁВЫХ ХВАЛЯХ.*

## УРАЧЫСТАЯ САКАВІКОВАЯ БАГАСЛУЖБА

З нагоды 40-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР Яго Высокапрэасьвяшчэнства Архіепіскап БАПЦ Васілі ў суслужэньні мітрафорных пратаерэяў а. а. Хведара й Сьцяпана адправіў урачыстую Службу Божую, якая скончылася малітвай за Беларускі Народ. Багаслужба адбылася ў Беларускім Праваслаўным Катэдральным Саборы (401 Атлянтык Эвэню, Бруклін). У вадноўленай сьвятыні, з правізарычным яшчэ іканастасам й сьвежымі сьлядамі рыхтаваньня да гэтага ўрачыстага мамэнту, зыйшліся Беларусы на супольную малітву й падзяку, па далейшыя духовыя сілы ў змаганьні за ўжыцьцёўленьне запаветных ідэалаў беларускага народу.

У сваёй казані Ўладыка Васіль гаварыў, што ўсе нашыя ўдачы й добрыя вынікі нашых намаганьняў мы заўдзячаем нашай шчырай веры ў Бога, і што толькі зь Ім мы дачакаемся таго часу, калі бацькаўшчына нашая вызваліцца да свабоднага й незалежнага жыцьця.

Царкоўных хор пяяў пад кіраўніцтвам дырыгента сп. М. Тулейкі.

## РАДЫЁВАЯ ПРАГРАМА Ў НЬЮ-ЁРКУ

У сыботу 29 сакавіка, напярэдадні сакавіковае акадэміі ў Білтмор-гатэлі, праз радыястанцыю WEVD (на хвалі 1330 мгц і „фм" 97,9) ад 12.30 да 1.00 гадзіны папаўдні была перададзеная адмысловая сьвяточная праграма. Перадача складалася з рэлігійных, нацыянальных і патрыятычных сьпеваў, зь гістарычных вестак пра беларускую незалежнасьць, з паведамленьняў пра абход сакавіковых угодкаў БНР у Амэрыцы. Апрача гэтага, праз радыё зьвярнуліся да слухачоў: Яго Высокапрэасьвяшчэнства Ўладыка Васіль — із словамі вітаньня й духовага падтрыманьня, гэн. Ф. Кушаль — з заклікам годна дбаць пра стан вайсковае справы як неадлучнае часткі беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, і старшыня Галоўнае Ўправы БАЗА мгр. М. Кунцэвіч — з запрашэньнем усіх на акадэмію ды із зваротам да Беларусаў актыўней улучацца ў беларускае грамадзкае жыцьцё ў Амэрыцы.



**Прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык прамаўляе на акадэміі ў Білтмор Гатэлі**

# УРАЧЫСТАЯ АКАДЭМІЯ у НЬЮ-ЁРКУ

У нядзелю 30-га сакавіка а гадз. 3.30 папаўдні ў залі Білтмор Гатэлю сп. К. Мярляк, старшыня Нью-ёрскага аддзелу БАЗА, адчыніў урачыстую акадэмію, прысьвячаную сараковым угодкам незалежнасьці Беларусі. Прачытаўшы прывітаньне ад Прэзыдэнта ЗША Д. Д. Айзэнгаўэра, ён перадаў слова Прэзыдэнту БНР М. Абрамчыку, які сказаў кароткую, гарачую прынагодную прамову.

З прывітальнымі словамі на акадэміі выступалі: Кэнэтс Кайлгрув — праф. Нортвэстэрнскага Унівэрсытэту (Ілінол), Ф. Дорн — Кангрэсмэн зь Нью-Ёрку, Дж. Кокс — судзьдзя, галоўны маршал сёлетняга Параду Ляяльнасьці, праф. Г. Лівач — ад Палякаў, др. А. Прыходзька — ад Украінцаў.

Шчырымі воплескамі былі вітаныя, прадстаўленыя сп. Мярляком, шматлікія госьці — чужынцы, якія сваім прыбыцьцём ушанавалі нашае сьвята, а між імі — др. С. Вітвіцкі, Прэзыдэнт Украінскай Народнай Рэспублікі, палк. Адам Коц зь Інстытуту Я. Пілсудзкага ў Амэрыцы, др. Язэп Ліхтэн, ведамы жыдоўскі дзеяч ды шмат іншых. Асобна былі прывітаныя прысутныя дастойныя прадстаўнікі сьвятарства розных веравызнаньняў.

Прыгожым мамэнтам урачыстасьці было прывітаньне беларускіх дзеячоў — удзельнікаў падзеяў 1917-1920 гадоў, што былі на акадэміі: сп. Я. Гладкага — дэлегата Ўсебеларускага Кангрэсу, ген. Ф. Кушаля — арганізатара войска БНР, др. Я. Станкевіча — сябру Віленскай дэлегацыі на Кангрэс, а. Хв. Данілюка — ахвіцэра Слуцкага Паўстаньня і рэд. М. Міцкевіча, сябру рэдакцыі „Вольная Беларусь".

Пад канец былі прачытаныя Праклямацыі дня 25-га сакавіка Днём Беларускае Незалежнасьці ў Нью-Ёрку і шмат якіх штатах, дзе жывуць Беларусы, ды пісьмовыя прывітаньні ад выдатных дзяржаўных, палітычных і грамадзкіх дзеячоў, у тым ліку ад 10 губэрнатараў, 20 сэнатараў ды 30 кангрэсмэнаў, ад Ю. Міні, старшыні Задзіночаных Прафэсыйных Саюзаў Амэрыкі, Амбасадара Турэччыны, ды іншых дыпляматычных прадстаўніцтваў у ЗША.

У канцы сп. М. Кунцэвіч, старшыня Галоўнае Управы БАЗА, прывітаў усіх ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў ЗША ды падзякаваў сп. К. Мярляку, кіраўніку акадэміі, за ўдала з а р г а н і з а в а н а е Сакавіковае сьвяткаваньне.

Мастацкая частка акадэміі, што пераплятала палітычныя выступленьні, складалася з прыгожае дэкляматцыі вершу Н. Арсеньневай „Малітва да Жыровіцкае Божае Маці" малой Лідай Рагуля, „Т а н ц у красак", выкананым дзецьмі з Нью-Брансьвіку, і запраўды мастацкім сьпевам солё сп-ні А. Маркоўскай і сп-чні Клавы Ярашэвіч. Акампаніявала нашым сьпявачкам праф. Э. Зубковіч.

**Пасьля акадэміі адбыўся банкет.**

## ІМША ЗА БЕЛАРУСЬ У КАТЭДРЫ СЬВ. ПАТРЫКА

У сыботу 29-га сакавіка а 11 гадзіне ўраньні ў Катэдры сьв. Патрыка ў Нью-Ёрку а. Ф. Чарняўскі адправіў Сьв. Імшу за Беларусь і Беларускі Народ ды сказаў прынагодную казань. Шмат вернікаў прыступіла да Сьв. Камуніі.

## „ГОЛАС АМЭРЫКІ" ПРА ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

**Радыястанцыя „Голас Амэрыкі" надала адмысловую радыёперадачу пра абход у Амэрыцы 40-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі; радыёперадача была ўва ўсіх надаваных у Савецкі Саюз мовах. Гэтта падаём вынятак з досыць вялікае Сакавіковае аўдыцыі.**

„У Нью-Ёрку ў сыботу й нядзелю адбыўся ўрачысты абход, якім адзначалася саракагодзьдзе абвешчаньня дзяржаўнае незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі. У дзень гэтых угодкаў — 25 сакавіка — у вабедзьвюх гасподах Амэрыканскага Кангрэсу — у Сэнаце й Гасподзе Прадстаўнікоў — былі прачытаныя афіцыйныя заявы, прысьвячаныя сараковым угодкам абвешчаньня дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі.

Прэзыдэнт Ураду Беларускае Народнае Рэспублікі на эміграцыі Мікола Абрамчык прыехаў з Парыжу, каб выступіць з прамовай на адмысловым урачыстым зборы ў Нью-Ёрку, зарганізаваным Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем.

Напачатку гэтага тыдня ньюёркаўскі губэрнатар Гэрымэн заклікаў жыхарства штату Нью-Ёрк узяць удзел у сьвяткаваньні саракагодзьдзя незалежнасьці Беларусі.

Сэнатар Гоэмфры, выступаючы ў Сэнаце, заявіў, што маскоўскія мэтады здушваньня свабоды не маглі забіць прагі свабоды ў Беларусаў, якія становяць трэйці зь вялічыні народ Савецкага Саюзу. Сэнатар дадаў: „Мы пэўныя, што яны ніколі ня здушаць яго".

З заявамі з нагоды саракагодзьдзя абвешчаньня незалежнасьці Беларусі выступілі таксама кангрэсман Робэрт Майчэл і сэнатар Лёўшы".

## Сьвята незалежнасьці Беларусі
заканчэньне

чы цьвёрдае перакананьне ў будучае вызваленьне Беларусі. Цэлая чарада кангрэсмэнаў наступнымі днямі сваімі прамовамі выяўлялі спагаду да паняволенага Народу Беларускага.

Губэрнатары штатаў, дзе жыве большы лік Беларусоў, з прычыны сараковых угодкаў выдалі свае ўрачыстыя праклямацыі, абвяшчаючы дзень 25 Сакавіка беларускім днём для цэлага штату. Гэткія праклямацыі былі апавешчаныя губэрнатарамі Нью-Ёрку, Нью-Джэрсы, Ілінойс, Мічыгэн, Огаё, Мэрыленд, Каліфорніі й Род Айленд.

У Нью-Ёрку, Чыкага, Кліўленьдзе, Дэтройце, Нью Брансвіку ды іншых беларускіх асяродках Амэрыкі сакавіковыя ўгодкі былі адцемленыя адмысловымі багаслужбамі ды ўрачыстымі акадэміямі пры зборы вялікага ліку Беларусаў ды выдатных амэрыканскіх і іншанацыянальных гасьцей.

## ПАРАД ЛЯЯЛЬНАСЬЦІ Ў НЬЮ-ЁРКУ ЎШАНОЎВАЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ БЕЛАРУСІ

Сёлетні Парад Ляяльнасьці, што стаўся традыцыйнай антыкамуністычнай маніфэстацыяй, ушанаваў 40-ыя ўгодкі незалежнасьці Беларусі, Украіны, Эстоніі, Лацьвіі й Летувы. З гэтае нагоды калёны гэтых пяцёх народаў ішлі першымі ў дывізіі нацыянальнасьцяў.

Парад прайшоў вельмі ўдала (25 тысячаў удзельнікаў і 150 тысячаў глядачоў) пры ветранай, але сонечнай пагодзе. Сёлета Парад Ляяльнасьці ўпяршыню праходзіў па новым, больш людным, адрэзку Пятае эвэню — ад 63-яе вуліцы да 38-ае, заміж, як было дагэтуль, ад 90-ых вуліцаў да 60-ых.

Беларуская калёна выглядала сёлета вельмі прыгожа й маналітна: больш нацыянальных строяў і — што асабліва цешыць — больш моладзі, мамэнт, на які нат няпрыязнае „Новае Рускае Слова" зьвярнула ўвагу.

Беларускую калёну вёў старшыня акруговае ўправы БАЗА сп. К. Мярляк. Ганаровым маршалам на Парадзе ад Беларусаў быў гэн. Ф. Кушаль, а яго́ным заступнікам — старшыня БАЗА мгр. М. Кунцэвіч.

# ДОЛЯ БЕЛАРУСІ УВАГАЮ АМЭРЫКАНСКАГА СЭНАТУ Й КАНГРЭСУ

*ПРАМОВЫ АМЭРЫКАНСКІХ СЭНАТАРАЎ І КАНГРЭСМЭНАЎ З НАГОДЫ ДНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ.*



**Айцец Ф. Чарняўскі, Кангрэсман Ф. Дорн і Вяч. Станкевіч пасьля Малітвы ў Кангрэсе.**

## УГОДКІ БЕЛАРУСІ У СЭНАЦЕ Й КАНГРЭСЕ ЗША

**Саракавыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР шырокім водгукам адбіліся ў вабедзьвюх амэрыканскіх вышэйшых правадаўных гасподах — у Сэнаце й Кангрэсе.**

**Каля дваццацёх амэрыканскіх сэнатараў і больш за трыццаць кангрэсмэнаў прыслалі з нагоды ўгодкаў незалежнасьці БНР прывітальныя тэлеграмы й лісты на рукі старшыні БАЗА, Нью-Ёрк. Дзесяткі гэткіх-жа прывітаньняў атрымалі беларускія арганізацыі Чыкага, Кліўленду, Дэтройту й іншых беларускіх асяродкаў.**

**Больш за дваццаць сэнатараў і кангрэсмэнаў адмысловымі прамовамі й асьветчаньнямі адзначылі сараковыя ўгодкі БНР у самым Сэнаце й Кангрэсе. Прамовы гэтыя надрукаваныя ў афіцыйным дзёньніку Кангрэсу — Кангрэсавым Рыкордзе.**

**Разам больш за сто прадстаўнікоў вышэйшых амэрыканскіх правадаўных установаў віталі Беларускі Народ ад імя Амэрыканскага Народу ды выказалі сваю цьвярдую веру ў тое, што неўзабаве надыйдзе пара, калі й вольны Беларускі Народ зойме сваё заслужанае месца ў сям'і свабодных дэмакратычных народаў сьвету.**

**З прамоваў і прывітаньняў відаць, што важнай інфармацыйнай крыніцай для прадстаўнікоў амэрыканскіх палатаў у справе ўгодкаў незалежнасьці Беларусі паслужыла выдадзеная Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем кніжка паангельску „Незалежнасьць Беларусі".**

**Тут друкуюцца выняткі з прамоваў сэнатараў у Сэнаце й некаторых кангрэсмэнаў у Кангрэсе.**

## ПРЫВІТАНЬНІ У СЭНАЦЕ

### СЭНАТАР Г. Г. ГОЭМФРЫ (Мінэсота)

Спадару Прэзыдэньце! Сяньняшні дзень 25 сакавіка 1958 году адзначае сараковыя ўгодкі Беларускае Народнае Рэспублікі. Калі Рада Беларускае Народнае Рэспублікі абвесьціла волю й незалежнасьць свайго краю, яна ўсьведамляла, што гэты сьмелы, адважны акт сьцягне савецкую помсту.

У 1921 годзе, усяго 3 гады пасьля таго, як гэты гэраічны народ заснаваў сваю дзяржаву, бальшавікі апанавалі краем і Рыскаю ўгодаю 1921 году падзялілі тэрыторыю Беларускае Народнае Рэспублікі паміж Польшчай і Расеяй. І пад тыраніяй Беларускі народ вёў змаганьне за свабоду ў Польшчы і ў БССР усімі магчымымі спосабамі. Ня спыняюць свае дзейнасьці й правадыры на выгнаньні. Дармо, што Масква тарнавала ўсякія магчымыя спосабы ўціску, няма сумлеву, што Саветы ня здолелі заглушыць імкненьне гэтага адважнага народу да свабоды. Мы пэўныя, што гэта ім ніколі й ня ўдасца.

Сяньня гэты паняволены камуністычнымі верхаводамі народ будзе мець мала магчымасьці для выяўленьня свайго традыцыйнага замілаваньня да волі й свабоды.

Свабодным заходнім дзяржавам ня трэба забывацца, што пры канцы I Сусьветнай Вайны быў скліканы Першы Ўсебеларускі Кангрэс у сталіцы Менску й што збройныя сілы камуністычнае Расеі заатакавалі й разагналі гэты вольны народны сход. 25 сакавіка 1918 году аднак-жа Рада Беларускае Народнае Рэспублікі ізноў абвесьціла незалежнасьць беларускае дзяржавы й актам агрэсіі Савецкая Расея напала ізноў і акупавала Беларусь...

Я цьвёрда веру, што Беларускі народ і тыя Беларусы, што жывуць на выгнаньні тутака ў Задзіночаных Штатах, будуць даваць нясупынны адпор агрэсіі камуністычнае Расеі ды ў дні свае дзяржаўнае незалежнасьці знойдуць сымбаль свайго вызваленьня, якое пад Божым паўсюдным маральным Провідам споўніцца ў сваім часе.

### СЭНАТАР Ф. Д. ЛЕЎШЫ (Огаё)

Спадару Прэзыдэньце! 25 сакавіка Беларускі Народ абходзіць 40-годзьдзе Дня Дзяржаўнае Незалежнасьці.

### СЭНАТАР П. Г. ДАГЛЯС (Ілінойс)

...Калі мы адзначаем 40-ыя ўгодкі беларускае дзяржаўнае незалежнасьці, мы прыпамінаем усяму сьвету, улучна з расейскімі камуністымі, што Амэрыканскі народ не забыўся й не забудзецца на гэраічныя намаганьні Беларускага народу да здабыцьця належнага месца сярод вольных народаў сьвету.

Пры гэтай гістарычнай нагодзе было-б мэтазгодна, каб „Голас Амэрыкі" пачаў рэгулярныя радыяперадачы ў беларускай мове, якія несьлі-б ад амэрыканскага народу весьць шчырае надзеі таго, што гэты, калісь вольны й незалежны народ, будзе неўзабаве вызвалены з путаў камуністычнага імпэрыялізму.

Гэта, у практычнай роўніцы, найлепшы адказ, які мы, як дзяржава, можам даць таму натоку хвальшывае прапаганды, якою расейскія камуністыя заліваюць сьвет, абходзячы 40-ыя ўгодкі свайго захопу ўлады ў Расеі.

Дзеля гэтага звярачаюся да Прэзыдэнта Задзіночаных Штатаў з заклікам зрабіць патрэбныя захады на тое, каб наладзіць рэгулярныя перадачы „Голасу Амэрыкі" на Беларусь... Надзею свабоды трэба падтрымваць сярод Беларусоў, як і сярод іншых паняволеных народаў.

## ПРАМОВЫ Й АСЬВЕТЧАНЬНІ АМЭРЫКАНСКІХ КАНГРЭСМЭНАЎ З ПРЫЧЫНЫ 40-ГОДЗЬДЗЯ БНР

### В. Л. АНФУСО (Нью Ёрк)

Роўна 40 год таму, 25 сакавіка, незалежнасьць Беларускае Народнае Рэспублікі была абвешчаная ў Менску...

...Крамлёўскія верхаводы заўсёды першыя з абвінавачваньнямі ў каляніялізьме й выступаюць у позе шчырых абаронцаў прыгнечаных і перасьледваных малых народаў. І тым-жа часам Масква патрапіла паняволіць больш малых народаў, як усе каляніяльныя дзяржавы разам узятыя, ды напэўна больш брутальным спосабам. Прыклад гэтага Беларусь. Жорсткі прыгнёт ейнае свабоды, ліквідацыя ейнае дзяржаўнае незалежнасьці, разгром ейнае культуры й веры, народагубная палітыка тарнаваная да ейнага жыхарства, парваньне ўсякіх сувязяў з вольным сьветам ды зь ягонымі суродзічамі ў Амэрыцы й іншых краёх, — гэта вось некаторыя жудасныя дасягненьні савецкіх валадароў Беларусі.

Важна, каб у гэтыя 40-угодкі незалежнасьці Амэрыканскі народ выявіў сваю салідарнасьць з народам Беларускім. Мы дакляруем не забывацца на яго ў ягонай трагічнай навазе й молімся за ягонае неўзабаўнае вызваленьне. Мы кіруем свае прывітаньні й свае пажаданьні адбудовы ягонае дзяржавы ў поўнай незалежнасьці й заняцьця заслужанага месца сярод вольных дзяржаваў сьвету, але сьвету спакайнейшага й шчасьлівейшага.

### Р. Г. МАЙЧЭЛ (Ілінойс)

Сяньня Дзень Незалежнасьці Беларусі...

...Ані тыя, што ператрывалі жудасьці камуністычнага рэжыму на бацькаўшчыне, ані Беларусы на чужыне, ня прызналі савецкага рэжыму на сваёй зямлі ды не пагадзіліся з жудаснаю брутальнаю практыкаю камуністычных валадароў... У гэтыя сараковыя ўгодкі дня незалежнасьці мы далучаемся да гэтага сьвяткаваньня, зь вераю, што некалі Беларусь будзе вольнаю ад расейскага камуністычнага паняволеньня.

### К. Д. ЗАБЛОЦКІ (Вісконсын)

Пры нагодзе 40-ых угодкаў беларускае незалежнасьці я хачу далучыцца да маіх сяброў у ўшаноўваньні духу волі, які гарыць зырка ў сэрцах Беларускага народу.

40 год Беларускі народ цярпеў у таталітарных шчамлётках жорсткіх крамлёўскіх камуністых. І ўсёткі ён ніколі дабраахвотна ня ўспрыняў камунізму, а ягонае жаданьне свабоды ня зломанае. Пакуль ёсьць надзея на магчымую незалежнасьць, дух свабоды жыве.

Дык у гэтыя ўгодкі незалежнасьці Беларусі аддайма чэсьць адданасьці свабодзе й справядлівасьці, што жыве ў сэрцах Беларускага народу. Хай гэтае шчырае жаданьне поўнае дзяржаўнае незалежнасьці й вольнага выяўленьня права на самавызначэньне споўніцца ў недалёкай будучыні.

### П. В. РОДЫНО, (Нью Джэрсы)

Сяньня ізноў вялікі дзень на календары змаганьня за свабоду. Бо-ж гэта 25 сакавіка 1918 году Беларускі народ... абвесьціў сваю незалежнасьць.

...У гэты ўгодкавы дзень я падымаюся, каб прывітаць яго й далучыцца да маіх беларуска-амэрыканскіх прыяцеляў у веры, што нядоўга давядзецца чакаць адважнаму Беларускаму народу на тое, каб ізноў цешыцца незалежнасьцяй і свабодай ды дасягнуць свайго ідэалу вольнага жыцьця ў сям'і дэмакратычных народаў.

### С. Б. ДЭРУНІЯН (Нью-Ёрк)

Я хачу далучыцца да ўшаноўваньня 40-ых угодкаў Абвешчаньня Акту незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі...

...Дэклярацыя незалежнасьці абвяшчала... свабоду слова, друку, сходаў, страйкаў і арганізацыі, неабмежаную свабоду сумленьня, незачэпнасьць асобы ды права жыцьця для ўсіх народаў і грамадзянаў Беларусі.

Трэба цьвёрда трымацца супраць камуністычнага прыгнечаньня, каб некалі ізноў цешыцца тымі свабодамі, якія мелі ў 1918 годзе.

### К. Б. КІТЫНГ (Нью-Ёрк)

У нашай шчырай рупнасьці пра свабоду й дабро тых народаў, што іх заліў крывавы патоп міжнароднага камунізму ў гадох ад II Сусьветнае Вайны, мы надта-ж часта забываемся на тых, чые свабоды былі патаптаныя тымі самымі дэспатамі ад шмат даўжэйшага часу...

У дзень 40-угодкаў незалежнасьці Беларусі мы асьвяжваем свае сілы на прыкладзе зацятасьці гэтых слаўных патрыётаў. Хай іхны прыклад будзе паланеючым сымбалем людзкое вечнай нянавісьці да рабства й да тых, каму смага ўлады — гэта ўсё; сымбалем, каля якога згуртуюцца ў змаганьні з дэспатызмам усе. Хто можа сумлявацца ў тым, што гэткі народ мусіць дасягнуць канцавое перамогі?

### А. М. БЭНТЛІ (Мічыгэн)

Хачу зьвярнуць увагу Кангрэсу на факт, што ў ваўторак, 25 сакавіка, маем 40-ыя ўгодкі незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі...

...Важна зьвярнуць увагу на такія ўгодкі, як гэтыя, каб паняволеныя народы ведалі, што наш урад і народ не забыўся пра іхныя прыгонныя ўмовы бытаваньня, але, наадварот, верыць, што дзень іхнага вызваленьня прыйдзе неўзабаве. Я вітаю грамадзянаў беларускага паходжаньня ў Дэтройце й па ўсім краі зь іхным абходам гэтага памятнага дня.

да наступнай бал.

# 25 САКАВІКА ПА ШТАТАХ АМЭРЫКІ

*ПРАКЛЯМАЦЫІ ГУБЭРНАТАРАЎ У ШТАТАХ НЬЮ ЁРК, НЬЮ ДЖЭРСЫ, ІЛІНОЙС, МІЧЫГЭН, ОГАЁ*

## ПРАМОВЫ Й АСЬВЕТЧАНЬНІ КАНГРЭСМЭНАЎ

### Г. Д. АДДОНЦЫЁ (Нью-Джэрсы)

...Блізу 40 год Беларусы жывуць пад ціскам ярма ненавідных ім камуністычных дэспатаў. Жыцьцё іхнае абмежанае й рэглямэнтаванае. Праца іхная безаглядна эксплятуецца. Іхныя рухі й захоўваньне пільна сочацца паўсюднай паліцыяй, і яны змушаныя працаваць на кантраляваную Масквою камуністычную дзяржаву. Іхны родны край цяпер падобны да вялікага вастрогу. Іхныя дэспатычныя валадары намагаюцца выкарчаваць у іх усе нацыянальныя пачуцьці, лучна з надзеяй на свабоду Беларусі. На шчасьце, навет і пры гэткіх, нязвычайна жудасных, абставінах, свабодалюбныя Беларусы ўсё трымаюцца сваіх ідэалаў свабоды й незалежнасьці. Яны ўсё жывуць няўміручаю надзеяй, што некалі яны зрынуць камуністычную тыранію ды будуць жыць свабодна ў родным краі. Далучаючыся да сьвяткаваньня дня саракавае незалежнасьці, я шчыра веру, што ўжо неўзабаве ўдасца дасягнуць гэтае простае, але высакароднае мэты.

### А. Д. МЮЛТЭР (Нью-Ёрк)

...Бальшыня з нас у вольным сьвеце ведае, што Савецкі Саюз сваёю безагляднаю самавольнаю тыраніяй прынёс больш гора й няшчасьця дзесяткам мільёнаў народаў, чымся які іншы ведамы нам рэжым...

...Беларускі народ із сваёю няўміручаю вераю ў Бога й чалавечую годнасьць некалі ізноў пераможа. Мы молімся з гэтым слаўным народам за тое, каб недалёкі быў дзень, калі Беларускі народ далучыцца да вольных народаў сьвету ў радасным сьвяткаваньні незалежнасьці.

### Д. РУЗВЭЛЬТ (Каліфорнія)

25 Сакавіка 1918 году Беларусы абвесьцілі сваю незалежнасьць.

...Гэтая эпохатворчая ў гісторыі Беларусі падзея й па сяньняшні дзень усімі свабодалюбнымі Беларусамі адзначаецца як іхнае нацыянальнае сьвята...

Беларусы лятуцяць пра дзень, калі абрыджоны камуністычны рэжым будзе зрынуты ды калі яны здолеюць ізноў дыхаць сьвежым паветрам свабоды.

Я рада далучаюся да гэтых наважаных Беларусоў у сьвяткаваньні дня іхнае незалежнасьці й падзяляю іхную веру ў дасягненьне іхнага нацыянальнага ідэалу.

### В. Д. ДАЙЛІ (Нью-Джэрсы)

Адзначаючы 40-ыя ўгодкі абвешчаньня Беларускае Народнае Рэспублікі, я схіляю сваю галаву ў суме й сораме. Глыбокая спагада тым, што супраціўіліся й памерлі ў здавалася-б безнадзейным змаганьні, што ў надлюдзкім хаданьні аддалі ўсё на тое, каб утрымаць за Зялезнаю Заслонай мігатлівую іскру свабоды, хай сабе й слаба, але тлеючы. Калі мы намагаемся шчыра ўшанаваць Беларусоў ды іхных суродзічаў за Зялезнаю Заслонай, што жывуць у паняволеньні, якое мяжуе з найпоўшым рабствам, сум і пачуцьцё віны ды сораму маюць, як і я, шмат маіх амэрыканскіх суродзічаў, што жывуць у поўнай свабодзе ў часе вялікага дастатку. Кажны раз, як год мінае, цярпеньне свабодалюбнага народу пад маскоўскаю пятою далей трывае, а тымчасам некаторыя, што крычэлі пра спагаду й зразуменьне, сяньня пачынаюць гаварыць пра мірнае суйснаваньне...

## ПРАКЛЯМАЦЫЯ ВАГНЭРА

**ГАСПОДА МЭРА МЕСТА НЬЮ-ЁРК**
**ПРАКЛЯМАЦЫЯ**

**ДЗЕЛЯ ТАГО, ШТО:**
**25 сакавіка 1958 году спаўняюцца саракавыя ўгодкі абвешчаньня Незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі й жыхары беларускага паходжаньня па ўсім сьвеце будуць адзначаць гэты дзень у чэсьць вольнага калісь народу;**
**ДЗЕЛЯ ТАГО, ШТО:**
**дух свабоды палане ў сэрцах мужоў і жанок Беларусі ды ўздымае новую веру й адвагу даваць адпор агрэсару, што намагаецца згасіць сьвятло былое іхнае славы; ды**
**ДЗЕЛЯ ТАГО, ШТО:**
**Амэрыканцы беларускага паходжаньня, што ймкнуцца да вызваленьня паняволенага ў родным краі народу, карыстаючы з дабрадзействаў нашае дэмакратыі будуць спэцыяльна адзначаць дзень, прысьвячаны свабодзе Беларусі,**
**таму Я, Робэрт Ф. Вагнэр, Мэр Места Нью-Ёрку, гэтым абвяшчаю 25 сакавіка 1958 году**

**БЕЛАРУСКІМ ДНЁМ**

**у месьце Нью-Ёрку, ды заклікаю жыхароў задзіночыцца з тымі, што беларускага паходжаньня, у маліцьве й веры, што ў канцавой перамозе справядлівасьці й права на сьвеце воля будзе зьвернутая ўсім паняволеным народам.**
**На довад чаго Я гэтта сваю руку й пячатку Места Нью-Ёрку, гэтага 24 дня сакавіка 1958 году прыкладаю.** (пячатка)

**РОБЭРТ Ф. ВАГНЭР**
**Мэр Места Нью-Ёрку**

## ПРАКЛЯМАЦЫЯ ГЭРЫМАНА

Праклямацыя

ШТАТ НЬЮ-ЁРК
ВЫКАНАЛЬНАЯ ГАСПОДА

**Роўна 40 год таму — 25 сакавіка 1918 году — Беларускі Народ абвесьціў свой край вольным й незалежнаю рэспублікай.**

**Быў гэта дзень вялікае радасьці. Але дэмакратычная свабода Беларусі доўга не трывала, бо камуністычныя агенты, кіраваныя з Крамля, неўзабаве захапілі ўладу. Гэта не забіла й ніколі не заб'е любасьці да свабоды, што зырка гарыць у сэрцах Беларускага Народу, уздымаючы яго на нясупыннае змаганьне супраць бязбожнае тыранічнае ўлады камуністычных дэспатаў.**

**Гожа ўсім нам ў гэтыя ўгодкі далучыцца да нашых сяброў-Амэрыканцаў беларускага паходжаньня ў вадзначаньні ўгодкаў незалежнасьці іхнага народу ды ў ушанаваньні сьмелага народу іхнае бацькаўшчыны, які змагаецца гэраічна, каб ізноў цешыцца Богам дадзеным правам на свабоду асабістую, свабоду веры й дзяржаўную незалежнасьць.**

**Вось дзеля гэтага, Я, Авэрэл Гэрымэн, Губэрнатар Штату Нью-Ёрку, гэтым абвяшчаю 24 сакавіка 1958 году**

**ДНЁМ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ**

**ў штаце Нью-Ёрку ды заклікаю жыхароў далучыцца да абходу кажным, адпаведным гэтай нагодзе, спосабам.**

**ДАДЗЕНА маёю рукою й пад пячаткай Штату, на Капітолі, у месьце Олбані, дзевятнаццатага сакавіка году Божага тысяча дзевятсот пяцьдзесят восьмага.**

Пячатка
САКРАТАР ГУБЭРНАТАРА

ГУБЭРНАТАР
АВЭРЭЛ ГЭРЫМЭН

## ПРАМОВА КАНГРЭСМЭНА М. А. ФІЕНА

Дарагія Сябры: Гэта вялікі мне гонар далучыцца да вас сяньня ў сьвяткаваньні саракавых угодкаў незалежнасьці Беларускага народу...

Дух нацыяналізму, які сяньня залівае ўсе нерасейскія народы Савецкага Саюзу, гэта нязвычайна магутная палітычная сіла, што дзеіць і на Беларусі. Гэта найбольшая праблема, якая стаіць перад расейскімі валадарамі на Крамлі. Гэта праблема, якое яны ня здолеюць разьвязаць. Гэта палітычны рух, які зьнішчыць моц Расеі й прыняссе чалавецтву новую пару супакою й справядлівасьці, у якой усе народы будуць мець сваю незалежнасьць й поўныя правы на самакіраваньне.

На довад устрывожанасьці расейскіх дэспатаў імкненьнямі нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу й паняволеных народаў цэнтральнае Эўропы да поўнае дзяржаўнае незалежнасьці, пры аднача́сным станаўкім адкіданьні імі насаджанае Расейцамі камуністычнай дактрыны, гляньма адно на абнаглелыя намаганьні Хрушчова ўцягнуць кіраўнікоў вольных народаў у другую канфэрэнцыю на ўзвышшы. Расейскі правадыр Хрушчоў публічна заявіў, што ўмоваю гэтага спатканьня, каб вольныя народы прызналі **статус кво**, што цяпер існуе на сьвеце. Гэтым дамаганьнем Хрушчоў просіць вольных людзей прыпячатаць паняволеньне Беларускага народу й усіх іншых нерасейскіх народаў за Зялезнаю Заслонаю. З гэтага ясна ўсім, што дамаганьне Хрушчова — гэта прызнаньне, што самі Расейцы пяздольныя ўтрымаць сваю імпэрыю ды моляць цяпер Захад, каб той дапамог ім у гэтым няслаўным заданьні. Гэткая, мае сябры, стратэгія, сукрытая пад абнаглелымі заклікамі й дамаганьнямі Масквы, якія яна робіць, каб давесьці да другое канфэрэнцыі на ўзвышшы.

Дык, у часе сьвяткаваньня 40-ых угодкаў беларускае дзяржаўнае незалежнасьці мы бачым кіраўнікоў вольнага сьвету пастаўленых перад пытаньнем: захочуць яны ці не, узяць удзел з Расейцамі у ўтрымваньні турмы народаў, адбудаванай і пашыранай на руінах старой расейскай імпэрыі? Пастанова, што цалком залежыць ад кіраўнікоў вольнага сьвету. У іхнай сіле адкінуць гэткія запросіны да няславы, або быць удзельнікамі найбольшай несправядлівасьці ў гісторыі. Адкідаючы расейскую прапанову **статус кво,** кіраўнікі вольнага

заканчэньне на 5 б.

## 25 САКАВІК УРАЧЫСТА АДЗНАЧЫЛА 8 ШТАТАЎ ЗША

У саракавыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі губэрнатары 8 штатаў Амэрыкі адмысловымі праклямацыямі абвесьцілі 25 сакавік 1958 г. урачыстым днём для сваіх штатаў, заклікаючы жыхароў далучыцца ў гэты дзень да амэрыканцаў беларускага паходжаньня ў іхных абходах свайго сьвята.

У сакавіковых праклямацыях губэрнатараў, у ўзвышаным, сьвяточным стылі, падаецца да ведама пра йстоту й значаньне беларускага сьвята, падчыркваецца ягоная важнасьць для Беларускага народу й Беларусоў Амэрыкі, і дзеля высакароднае мэты яго, сьвята гэтае абвяшчаецца годным належнага адзначэньня па ўсім штаце, да чаго праклямацыя ўрачыста й заклікае ўсіх.

Сёлета куды больш губэрнатараў ушанавала дзень незалежнасьці Беларусі. Гэты факт сьветчыць аб ладным пашырэньні ў ЗША веды пра Беларусь і ейную долю, ды пра шпаркі рост зразуменьня й спагады да сучаснае долі народу Беларускага сярод амэрыканскага народу.

Праклямацыі выдалі найперш губэрнатары тых штатаў, на абшары якіх жыве большы лік Беларусоў. Сёлета сакавіковыя праклямацыі выдалі: **губэрнатар Нью-Ёрку Авэрэл Гэрымэн, губэрнатар Нью-Джэрсы Робэрт Б. Майнэр, губэрнатар Ілінойс Уільям Дж. Стратон, губэрнатар Мічыгэн Дж. Мэннэн Уільямс, губэрнатар Огаё С. Уільям О'Нейль, губэрнатар Каліфорніі Гудвін Дж. Найт, губэрнатар Мэрыленд Тодар Р. МкКельдін, губэрнатар Род Айленд Дэніс Дж. Робэртс.** Аднача́сна дзень незалежнасьці Беларусі БЕЛАРУСКІМ ДНЁМ усяго места Нью-Ёрку праклямаваў урачыста **мэр Нью-Ёрку Робэрт Ф. Вагнэр.** Праклямацыю гэтую мэр Р. Ф. Вагнэр у часе адмысловае аўдыенцыі на ратушы Нью-Ёрку 24 сакавіка с. г. уручыў дэлегацыі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня й Згуртаваньня Беларускае Моладзі Амэрыкі.

Лік жыхарства тых 8 штатаў, дзе сёлета былі абвешчаныя праклямацыі з прычыны 25 Сакавіка, становіць разам каля 60 мільёнаў. Гэта значыць, што для больш як трацьцы ўсяго жыхарства ЗША дзень незалежнасьці Беларусі быў сёлета **афіцыйна** абвешчаны урачыстым днём. Для прыкладу, як звычайна выглядаюць праклямацыі, побач зьмешчаныя ў беларускім перакладзе тэксты сакавіковых праклямацыяў губэрнатара Гэрымэна й мэра Вагнэра.

# 25 САКАВІКА ПА БЕЛАРУСКІХ АСЯРОДКАХ АМЭРЫКІ

*УРАЧЫСТЫЯ БАГАСЛУЖБЫ Й АКАДЭМІІ Ў ЧЫКАГА, КЛІЎЛЕНЬДЗЕ, ДЭТРОЙЦЕ, САЎТ-РЫВЕРЫ*

### САКАВІКОВЫЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦІ Ў ЧЫКАГА

У нядзелю 30 сакавіка Беларусы м. Чыкага й ваколіцы ладзілі ўрачыстае сьвяткаваньне абвешчаньня незалежнасьці БНР. Праграма сьвяткаваньня складалася з трох частак.

У першую, афіцыйную, частку ўвайшлі: амэрыканскі гымн (вык. сп. Н. Градэ), адчыненьне (сп. А. Бяленіс), урывак з жалобнага маршу Шапэна (праф. М. Куліковіч). Рэфэрат „Ідэал 25 сакавіка" прачытаў сп. Латушкін, а прывітаньні й тэлеграмы — сп. Пунтус. На канчатак урачыстае часткі усе адсьпявалі беларускі гымн „Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

На другую частку склаліся: выступы дзіцячага ансамблю беларускае школы (настаўніца сп-ня В. Махнач). Дзеці-школьнікі прапялі: „А у лесе, лесе", і „Ці сьвет ці сьвітае". Далей „Веснавы вальс" выканала на фартапіяне вучаніца гэтае школы Аля Пануцэвіч. Верш „О край родны" прадэклямаваў вучань Алік Брушкевіч. „Вугорскі танец" солё на акардыёне выканаў Ж. Новік.

У трэйцяй частцы выступіў беларускі хор пад кіраўніцтвам праф. М. Куліковіча (канфэравала сп-ня Галіна Салавей).

Перад адчыненьнем акадэміі, на прапанову а. Яна Тарасэвіча, усе адгаварылі малітву „Войча наш", а пасьля адчыненьня акадэміі сп-чня В. Жызьнеўская коратка, у добрай ангельскай мове, паінфармавала аб падзеях на Беларусі перад самым актам 25 сакавіка 1918 г. і пазьнейшых ды ў ангельскай і беларускай мовах падала зьмест дакумэнту губэрнатара штату Ілінойс пра абвешчаньне дня 25 сакавіка 1958 г. Днём Беларускае Незалежнасьці.

Добра пяялі вучні беларускае школы, удала іграла на фартапіяне А. Пануцэвіч, прыкладна дэклямаваў А. Брушкевіч і бяз закідаў спраўляўся з акардыёнам Ж. Новік.

Выступы беларускага хору неспадзявана былі ўдалыя, і самыя харыстыя, аднолькава апраненыя ў белых блюзках, выглядалі ўрачыста. Сп. Сідарэвіч і сп-ня Т. Новік добра дэклямвалі, толькі верш „Курган" не падходзіў на ўрачыстае сьвята.

На ўвагу заслужылі сьпявачкі — сп-ня Н. Градэ, знаная прафэсіяналка, зьяўленьне якое на сцэне было шчыра вітане, ды сп-чня Мартыновіч. Кажная песьня сп-чні Мартыновіч абдаравалася гучнымі воплескамі, а ўканцы была змушаная выступіць на „біс".

Як кажны мог бачыць, душою ўсяе мастацкае часткі быў праф. М. Куліковіч, за што належыцца яму падзяка.

Дзіўна толькі, чаму на гэтае сьвяткаваньне ня былі запрошаныя ні Амэрыканцы, ні прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў, ці гэта арганізатары лічылі за рэч ня вартую ўвагі, ці гэта проста нядбаласьць?

А.

### СЬВЯТКАВАНЬНЕ Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

Сьвяткаваньне 40-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі было праведзенае ў Кліўленьдзе 30-га Сакавіка. Перад сьвяткаваньнем была разасланая кніжка „Дзень Незалежнасьці Беларусі" (выданая ў Нью Ёрку паангельску), усім сэнатарам і кангрэсмэнам штату, у рэдакцыі некаторых газэтаў, іншанацыянальным і амэрыканскім арганізацыям ды розным выдатнейшым асобам.

Губэрнатар штату Огаё абвесьціў праклямацыю Дня Беларускае Незалежнасьці ў дзень урачыстага сьвяткаваньня 40-х угодкаў, — 30 сакавіка. Арыгінал дакумэнту перасланы старшыні кліўлендзкага аддзелу БАЗА.

Урачыстасьць пачалася Божаю службаю ў БАПЦаркве, — служыў мітрафорны пратаерэй а. Мікалай Макарэвіч. Сваю прачулую царкоўную казань а. Мікалай прысьвяціў акту незалежнасьці Беларусі.

Акадэмія адбылася ў Украінскім Народным Доме (Вэст 14 вул.); адчыніў старшыня аддзелу БАЗА сп. В. Шчэцька. На акадэміі была прачытаная праклямацыя Дня Беларускае Незалежнасьці, абвешчаная губэрнатарам штату Огаё. Пасьля сп. В. Пляскач прачытаў паангельску рэфэрат з нагоды Сакавіковага Акту. Сп. І. М. Гэлігер, сакратар кангрэсмэна Майкэла М. Фіена, прачытаў адмысловую прамову кангрэсмэна Фіена, зычлівую й спагадлівую зьместам ды ілюстраваную гістарычнымі фактамі.

З прывітаньнямі выступалі прадстаўнікі Чэхаў, Летувісаў, Казакоў, Латышоў, Румынаў і Армянаў. У акадэміі узялі ўдзел і асабіста некаторыя прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў, — нашыя прыяцелі.

У мастацкай частцы сп. К. Кіслы паставіў мантаж „Шляхам незалежнасьці".

Сараковыя ўгодкі Акту 25 Сакавіка былі адзначаныя ў мясцовай прэсе: 28. III. у „Кліўленд Прэс", 31. III. у „Кліўленд Плэйн Дылэр", 27. III. і 1. IV. у польскай газэце „Вядомосьці цодзеннэ".

В. Ш.

### САКАВІК У САУТ РЫВЕРЫ

Цяга да роднага слова й беларускае атмасфэры тут на чужыне не занікае, а ўзрастае. Штодзённыя жыцьцёвыя турботы ў новым краі спрычыняюцца да абмежаваньня нацыянальна-ўсьведамляльнай працы. Аднак, добрае зерне, кінутае хоць і рэдка на чулую глебу беларускае душы, дае паказныя свае вынікі. Апошняе нашае сьвяткаваньне Сакавіка найлепш гэта пацьвердзіла. Лік прыбылых — надспадзяваны. Заля (якую ў ніякім выпадку нельга залічыць да малых, а наадварот — яна перарастае нат сярэднія памеры нашых мясцовых абставінаў) была цалком запоўненая. Адразу пасьля ўрачыстай Багаслужбы прыбылі на акадэмію ўсе сябры аддзелу БАЗА.

Новым і вельмі важным мамэнтам сьвяткаваньня быў арганізаваны выступ нашае моладзі. На сёлетняй акадэміі ня выступалі ўжо Зося, Янка ці Аня, — але ўсю мастацкую частку (а яна была немалая) выканалі сяброўкі й сябры Згуртаваньня Беларускае Моладзі. Сёлетнія сакавіковыя сьвяткаваньні сталіся баёвымі хрэсьбінамі маладзежнай арганізацыі. У дзень сакавіковых сьвятаў моладзь зрабіла пачын перайманьня нашае грамадзкае працы на свае кволыя плечы. А старэйшае грамадзтва навочна назірала, у якія рукі перадае нацыянальна-вызвольную працу. Пачын быў добры. Мясцоваму ЗБМ — шчасьці Божа!

Цяжка тут адзначыць, хто з ЗБМ найбольш спрычыніўся да ўдзелу у акадэміі. Працавала ўся моладзь, і працавала заўзята. Апрача-ж удзелу ў мастацкай частцы, у тэхнічным дарыхтаваньні выявілі сваю энэргію сяброўкі й сябры ЗБМ — Галіна Лосік, Герда Кабушка й Аўген Дубяга.

Аддзел БАЗА даў рэфэрат аб сараковых угодках Сакавіка. ЗБМ дало лявоніху, крыжачка (рыхтавала сп-ня Ніна Кулеш), дэклямацыі й сьпеў маладзежныя песьні. Мілай зьявяю быў выступ наймалодшых вучняў мясцовае беларускае школкі ў сымбалічным і надта прыгожым танцы красак, як васілёк, рамонак, мак і шыпшына да новага радасьнага жыцьця. І вясна беларускага адраджэньня дасьць пачатак новаму радаснаму жыцьцю ў Незалежнай Беларусі. На гэтым месцы належыцца слова падзякі бацьком дзяцей за іхнае зразуменьне справы й выдатнае матар'яльнае падтрыманьне пры прыдбаньні адпаведных (а нат і каштоўных) вопратак для нашых красак. Хай яны вечна красуюць на радасьць бацьком і грамадзтву! Тыдзень пасьля танец красак быў выканаваны на акадэміі ў Нью-Ёрку.

На акадэміі былі прачытаныя прывітаньні й пажаданьні ад кангрэсманаў штату Нью-Джэрсы, а таксама праклямацыя губэрнатара Майнэра аб абвешчаньні сьвятам дня 25 сакавіка 1958 году.

Наступнага дня ў мясцовай амэрыканскае газэце стараньнем вучаніцы беларускае школкі Ані Кажуры зьявілася зацемка аб акадэміі.

### У ДЭТРОЙЦЕ

40-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР былі папярэджаныя ў Дэтройце інфармацыйнымі артыкуламі ў англамоўнай ды іншанацыянальнай прэсе аб гісторыі змаганьня беларускага народу за сваю незалежнасьць.

Урачыстая акадэмія, прысьвячаная Дню 25 Сакавіка, пачалася ў залі Інтэрнацыянальнага Інстытуту адыграньнем амэрыканскага гымну. Па адчыненьні — прынагодны рэфэрат мгр. В. Пляскача, прачытаньне праклямацыі Дня Беларускае Незалежнасьці, абвешчанай губэрнатарам штату Мічыгэн Г. Мэнэн Вільямсам, ды прывітальнай тэлеграмы губэрнатара.

Прывітаньні прыслалі таксама сэнатары Чарлз Поттэр і Патрык Мэк Намара. Адмысловы зварот прыслаў кангрэсмэн Джон Лесінскі (кангрэсмэн Лесінскі зрабіў даклад у Кангрэсе на тэму 40-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР, запісаны ў Запісах Кангрэсу за 28 лютага 58 г.).

Мэр места Дэтройту сп. Люі Мар'яні ў сваім прывітаньні падчыркнуў сваё шчырае задаволеньне з таго, што сярод сваіх грамадзянаў мае зарганізаваных Беларусаў і пажадаў найлепшых удачаў у іхнай нацыянальнай працы. Старшыня Амэрыканска-Латыскага Задзіночаньня ў Дэтройце сп. Рудзітыс у шчырай прамове заклікаў Беларусаў, Латышоў ды ўсе паняволеныя народы да супольнага вызвольнага фронту.

Мастацкую праграму склалі хор пад кіраўніцтвам сп. К. Кіслага й танцавальны гурток беларускае школы з Кліўленду з удзелам і мясцовых аматараў мастацтва: Веры Дубнік, Веры Блоцкай, Юркі Мазуры, Сьвятланы Пляскач.

На акадэміі былі госьці з Кліўленду, Грэнд Рапідс, Лёндану (Канада).

Прыкра, што ня было на акадэміі тых, што завуць сябе Беларусамі ды афішуюцца, што яны „стаяць" на прынцыпах Акту 25 Сакавіка. Відаць, ідэалы 25 Сакавіка ім ня так ужо дарагія, а шыльда ўжываецца адно пры разбуральнай нагодзе.

### У ЛЁС-АНДЖЭЛЕСЕ

Сараковыя ўгодкі Незалежнасьці ў Лёс-Анджэлесе былі адзначаныя 30 сакавіка. На прыватнай гаспадзе аднаго зь сяброў зыбралася невялікая грамада Беларусаў, што жывуць тут, каб супольна, ня гледзячы на розьніцу поглядаў, ушанаваць вялікае нацыянальнае сьвята. Праграма сьвяткаваньня складалася з рэфэрату й дэклямацыў. Гэта было першае сьвяткаваньне Дня Незалежнасьці ў Лёс-Анджэлесе, дзе апошнімі часамі грамада Беларусаў пабольшылася. У сваім прывітаньні Беларусам Лёс-Анджэлесу з нагоды 40-х угодкаў незалежнасьці БНР, якім аднача сна абвяшчаўся ў Каліфорніі Дзень Беларускае Незалежнасьці, губэрнатар штату Каліфорніі напісаў: „Супраціў беларускага народу савецка-расейскаму панаваньню й бязбожнай камуністычнай сыстэме натхняе ўсюды тых, хто любіць свабоду й дэмакратыю, ды заслугоўвае на сымпатыю, маральную й матар'яльную падтрымку ў цэлым вольным сьвеце".

Я. А.

### ПРАМОВА М. А. ФІЕНА

сьвету ня толькі застануцца пры сваіх асноўных маральных і палітычных прынцыпах, але й больш таго — яны яшчэ раз пацьвердзяць сваю веру ў нямінучую перамогу людзкой свабоды над сіламі тыраніі, што дзеюць у сьвеце. Вось гэтую думку я пакідаю з вамі пры гэтай гістарычнай нагодзе, што так шмат значыць для тых з вас, хто з гонарам выводзіць сваё паходжаньне ад старавечнага й слаўнага народу Беларускага.

## СЬВЯТА 25-га САКАВІКА ў КАНАДЗЕ

### ТАРОНТА

23-га сакавіка, пачынаючы сьвяткаваньне 40-е гадавіны Акту 25 Сакавіка, а. Міхаіл адслужыў урачыстую Службу Божую ў БАПЦаркве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта, перапоўненай мясцовымі ды прыбылымі з усіх мясьцінаў правінцыі Антарыё вернікамі.

А гадз. 3.30 папаўдні была пачатая Акадэмія адыграньнем брытанскага гымну, пасьля чаго старшыня Галоўнае Управы сп. А. Маркевіч у сваім уступным слове пабеларуску й паангельску прывітаў усіх зь вялікім нацыянальным сьвятам.

Др. В. Жук-Грышкевіч зрабіў даклад, прысьвячаны змаганьню беларускага народу за сваю волю й незалежнасьць ды падрабязна прааналізаваў вялікасьць, важнасьць і дэмакратычнасьць устаўных граматаў, прынятых Радай Усебеларускага Кангрэсу ў 1918 г. у Менску.

Ад запрошаных гасьцей выступілі з прывітальнымі прамовамі: містэр Малёні, сябра Канадзкага Парляманту й дараднік міністра працы, Мр. Бруін, кандыдат у парлямэнт СіСіЭф ды прадстаўнік Славакоў; затым сп. К. Акула (ён вёў акадэмію) прачытаў прывітаньні, прысланыя з нагоды вялікага сьвята ад высокіх канадзкіх мужоў ды лідэраў галоўных канадзкіх партыяў, у тым ліку й ад прэм'ер-міністра Канады містэра Дыфэнбэкэра, а таксама ад шмат якіх арганізацыяў ЗША.

Перад канчаткам акадэміі пад шумныя воплескі выступіў з прамовай Прэзыдэнт Рады БНР інж. Мікола Абрамчык, насьвятліўшы стан змаганьня за незалежнасьць Беларусі ды крытычны стан гэтак званага СССР. Прэзыдэнт на аснове сучасных паказальных падзеяў выказаў моцную надзею, што за колькі год стан зьменіцца на нашую карысьць, і мы спаткаемся на вольнай Беларусі.

Пасьля кароткага перапынку адбылася мастацкая частка, па

да наступнай бал.

## СЬВЯТА 25-га САКАВІКА ў КАНАДЗЕ

чатая беларускім народным танцам „Крыжачок" у выкананьні Ніны Слаўко, Марыі Равінскай, Валі Філановіч, сп-ні Лабэцкай, М. Арцюха, М. Ганько, Ж. Слаўко і Ул. Барановіча ў беларускіх нацыянальных строях, пад акампаніямэнт сп. сп. М. Парадоўскага і А. Лабэцкага (акардыён і мандаліна). Далей — тры прыгожыя беларускія мэлёдыі ў выкананьні Валі Руднікевіч на акардыёне, дэклямацыя вершу „Я ад вас далёка" Я. Купалы ў выкананьні Ул. Барановіча, танец „Полька Янка" у выкананьні Ніны Слаўко і Валі Філановіч, сьпеў Марыі Л-к і Ані Харэвіч. Апошнім нумарам мастацкай часткі была нацыянальная Лявоніха, выкананая ўдала, як і іншыя танцы.

Акадэмія закончылася адсьпяваньнем нацыянальнага гымну.

### САДБУРЫ

Сёлета сьвята 25 Сакавіка было ўрачыста адзначанае ў Садбуры ў сыботу 29 сакавіка. На сьвяткаваньні было шмат Беларусаў, а таксама гасьцей іншых нацыянальнасьцяў. Старшыня аддзелу ЗБК сп. М. Будзька адчыніў афіцыйную частку праграмы прывітаньнем з нагоды вялікага нацыянальнага сьвята і заклікаў да супольнай працы, згоды й агульнага высілку дзеля асягненьня мэтаў Акту 25 Сакавіка, затым прачытаў прывітаньні, прысланыя з нагоды сьвята. Прадстаўнік Галоўнае Управы ЗБК сп. К. Акула зрабіў даклад аб значаньні Акту 25 Сакавіка. Вітаў усіх таксама дастойны госьць з Таронта а. Міхаіл і заклікаў моцна верыць і гуртавацца вакол свае БАПЦарквы. На канчатак афіцыйнае часткі быў адыграны нацыянальны гымн. Па кароткім перапынку адбылася супольная вячэра. Назаўтра, у нядзелю 30 сакавіка, а. Міхаіл і а. Аўтакефані, мясцовы сьвятар УАПЦарквы, разам адправілі Божую Службу й шчыра маліліся разам зь вернікамі за Беларусь і ейны Народ.

Таго самага дня а 4-ай гадз. пп., надавалася празь мясцовую радыястанцыю СГНО-900 паўгадзінная радыяперадача з камэнтарамі ў ангельскай і беларускай мовах, нацыянальныя песьні й мэлёды.

Управа аддзелу з удзячнасьцяй адзначае прыслугу сп. К. Каранеўскага, а таксама сп-ні Т. Курловіч у арганізацыі сьвята.

Л. Н.

### АШАВА

У Ашаве дзень сараковых угодкаў абвешчаньня незалежнае Беларусі быў адсьвяткаваны 22 сакавіка. У гасподзе спадарства Харэвічаў сабраліся сябры мясцовага аддзелу ЗБК, запрошаныя госьці ды прадстаўнікі суседняга таронцкага аддзелу й Галоўнае Управы ЗБК разам із сьвятаром а. Міхаілам. Сп. М. Кашагуб, старшыня тутэйшага аддзелу, адчыніў урачыстасьць прывітальнаю прамоваю; затым сакратар мясцовага аддзелу сп. Л. Б. прачытаў рэфэрат, у якім зрабіў аналіз змаганьня беларускага народу за сваю волю й незалежнасьць. Сп. А. Маркевіч, старшыня ЗБК, прывітаў сабраных ад імя Галоўнае Управы ЗБК і ад імя Прэзыдэнта БНР М. Абрамчыка. Прывітальнае слова сказаў таксама а. Міхаіл. Урачыстасьць закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гымну. Па акадэміі адбылася супольная вячэра. Паважны сьвяточны настрой выказаўся ў супольных патрыятычных беларускіх песьнях, а таксама солё сп-ні Харэвіч ды ў дуэтах Марыі Л. і Ані Харэвіч.

Т.

### ПРЭЗЫДЭНТ БНР У КАНАДЗЕ

На запросіны Канадзкага сэктару Рады БНР, а таксама Галоўнае Управы Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе сп. Прэзыдэнт Рады БНР інж. М. Абрамчык наведаў беларускія асяродкі Канады ў днёх 22-27 сакавіка г. г.

У сыботу 22 сакавіка адбылося паседжаньне Канадзкага сэктару Рады БНР з удзелам сп. Прэзыдэнта, дзе было разважана шмат важных пытаньняў ды праслуханы рэфэрат сп. Прэзыдэнта аб міжнародным стане ды дзейнасьці Рады БНР. На наступны дзень — у нядзелю 23 сакавіка — сп. Прэзыдэнт выступаў з прамоваю на ўрачыстай Акадэміі ў Таронта, прысьвячанай 40-ым угодкам Акту 25 Сакавіка, дзе было шмат англамоўных гасьцей.

Галоўная Управа ЗБК наладзіла ў панядзелак увечары спатканьне сяброў Управы Таронцкага аддзелу ЗБК з сп. Прэзыдэнтам, дзе сп. Прэзыдэнт паінфармаваў усіх пра дзейнасьць Рады БНР ды даў вычарпальныя адказы на шмат пытаньняў сяброў.

У часе пабыту ў Канадзе сп. Прэзыдэнт наведаў таксама беларусаў гор. Лёндану й Бэры ды ў вапошнім меў магчымасьць пару дзён адпачыць.

А. М.

### БЕЛАРУСКІЯ РАДЫЯПЕРАДАЧЫ З НАГОДЫ 40-ЫХ УГОДКАЎ 25 САКАВІКА

1. У пятніцу 21 сакавіка а 9-ай гадз. увечары праз трансканадыйскую сетку СіБіСі-СіБіЭл (на хвалі 740) з Таронта, была чуваць па ўсёй Канадзе;

2. У панядзелак 24 сакавіка а гадз. 7-ай увеч. на хвалі 680 праз радыястанцыю СіЭйчЭлОў з Сэнт Томас, каля Лёндану (Ант.);

3. У нядзелю 30 сакавіка а гадз. 4-ай п. п. на хвалі 900 праз радыястанцыю СіЭйчЭнОў з Садбураў (Ант.).

Ведамая радыякамэнтатарка Эдыт Гайдэр з радыё СіЭйчЭмЭл у Гамільтоне (Ант.) у сваім камэнтары паангельску ў дзень 25-га Сакавіка паінфармавала сваіх слухачоў з нагоды сьвята аб Дні Беларускай Незалежнасьці, падаўшы гістарычныя дадзеныя ды выказаўшы найлепшыя пажаданьні ў справе вызваленьня.

Украінская радыястанцыя Шарвана ў Бафалё, ЗША, таксама вітала Беларусаў праз этэр з нагоды 40-ых угодкаў Акту 25 Сакавіка ў сваім камэнтары ды перасылала ў васобе праф. Сагана свае пажаданьні з прывітаньнямі ўсяму Беларускаму Народу ад імя Украінцаў.

### ІНШАМОЎНАЯ ПРЭСА АБ 40-ЫХ УГОДКАХ АКТУ 25-ГА САКАВІКА

У сувязі з 40-мі угодкамі абвешчаньня Беларусі вольнай і незалежнай Актам 25 Сакавіка, а таксама ў сувязі з адзначэньнем гэтага вялікага нацыянальнага сьвята Згуртаваньнем Беларусаў Канады ў нядзелю 23 сакавіка ў Таронта, наступныя іншамоўныя газэты зьмясьцілі вялікія артыкулы або зацемкі пра змаганьне Беларускага Народу за сваю незалежнасьць ды аб праграме сьвяткаваньня:

1. Канадзка-польская газэта „Звёнзковец", № 12 ад 22 сакавіка сёл., у сваім вялікім артыкуле пад наз. „Неподлегла Бялорусь";

2. Канадзка-украінская газэта „Вільнэ Слово", № 13 ад 29 сакавіка, у сваім вялікім артыкуле пад наз. „25 сакавіка 1918 року";

3. Канадзка-чэская газэта „Новы Домов" № 12 і 14 ад 22 сакавіка і 5 красавіка, інфармацыі аб праграме сьвяткаваньня угодкаў;

4. Канадзка-літоўская газэта „Тэвішкэс Жібуряі", № 13 ад 27 сакавіка, інфармацыі аб сьвяткаваньні угодкаў;

5. Таронцкая газэта „Тэлеграм", ад 24 сакав., інфармацыі аб сьвяткаваньні; „Торонто Дэйлі Стар", ад 24 сакав., інфармацыі аб акадэміі ЗБК з цытатаю словаў Прэзыдэнта Рады БНР М. Абрамчыка; „Глоўб энд Мэйл", ад 24 сакав., інфармацыі аб акадэміі разам з цытатай словаў сп. Прэзыдэнта.

А. М.

## 25 САКАВІКА ПА СЬВЕЦЕ

### АНГЕЛЬШЧЫНА

У Лёндане, галоўным цэнтры беларускага жыцьця Вялікабрытаніі, сакавіковыя ўгодкі адзначаліся па дзьвюх лініях. 16 сакавіка сьвята Незалежнасьці было адзначанае лёнданскім аддзелам ЗБВБ урачыстай багаслужбай у беларускім Доме Марыянаў ды сходам Беларусаў, на якім старшыня аддзелу ЗБВБ прачытаў рэфэрат на тэму „Існыя элемэнты беларускае дзяржаўнасьці".

25 сакавіка сьвяткаваньне ладзілася ў рамках Ангельска-Беларускага Таварыства з удзелам ангельскіх прыяцеляў Беларусаў, сярод якіх на сьвяткаваньні было колькі сяброў вялікабрытанскага парлямэнту, а таксама прадстаўнікі розных культурна-грамадзкіх арганізацыяў ды палітычныя дзеячы Ангельшчыны.

У **Манчэстэры** 40-ыя ўгодкі Незалежнасьці Беларусі былі адсьвяткаваныя 30 сакавіка ў Беларускім Доме, дзе а. Аляксандар адправіў багаслужбу. Акадэмію адчыніў старшыня мясцовага аддзелу ЗБВБ сп. М. Яськевіч; даклад прачытаў сп. А. Шацько. На сьвяткаваньні былі зьбраныя грашовыя ахвяры на Фонд БНР.

### БЭЛЬГІЯ

Угодкі БНР адзначаліся тут у ўнівэрсытэцкім гарадку Лювэне, дзе вучыцца — невялікая ўжо — група беларускіх студэнтаў, што жывуць у сваім собскім Беларускім Студэнцкім Доме. Лювэн — традыцыйны цэнтр беларускіх нацыянальных сьвятаў для Беларусаў Бэльгіі.

Сёлетнія сакавіковыя ўгодкі былі ўшанаваныя ў Лювэне багаслужбай а. Аўгена, рэфэратам у форме літаратурна-гістарычнага мантажу на тэму Сакавіка ды прамовай апякуна беларускіх студэнтаў і вялікага прыяцеля Беларусаў а. Рабэрта.

### ФРАНЦЫЯ

30 сакавіка беларуская калёнія **Парыжу** адсьвяткавала 40-я ўгодкі Сакавіка супольнай багаслужбай, адслужанай а. Лявом у царкве сьв. Людзьвіка й акадэміяй у вялікай залі Хрысьціянскага Сындыкату. Урачыстасьць адчыніў Гэнэральны Сакратар Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў сп. М. Наўмовіч і прачытаў у француская мове рэфэрат аб гісторыі незалежнасьці Беларусі. Сп. В. Міцкевіч прачытаў рэфэрат аб значаньні Сакавіковага акту. Былі вітаньні ад прадстаўнікоў іншых народаў і арганізацыяў.

Пасьля афіцыйнае часткі адбылася мастацкая, дарыхтаваная сп. А. Кавалеўскім, з удзелам беларускае сьпявачкі сп-ні Б. Вержбаловіч ды беларускіх дзетак з Парыжу. Гэта было вельмі ўдалае й людное сьвяткаваньне.

Сакавіковыя ўрачыстасьці абходзіла таксама беларуская калёнія ў **Крэзо** (паўдзённая Францыя) на чале з управай мясцовае сэкцыі АБРФ. У нядзелю 23 сакавіка а. Леў Гарошка адслужыў багаслужбу ў царкве сьв. Караля. Пасьля гэтага ў залі мясцовае мэрыі адбылася ўрачыстая акадэмія з рэфэратам на тэму дня, чытаньнем Маніфэсту Рады БНР ды вітаньнямі. У мастацкай частцы выступалі галоўна маладыя дэкляматары. Беларускія народныя й патрыятычныя песьні слухаліся з кружэлак.

### АЎСТРАЛІЯ

У васяродках Аўстраліі, дзе жыве большая колькасьць Беларусаў, 40-я ўгодкі былі ўшанаваныя арганізаваным парадкам.

У **Сыднэі** а. Зялінскім быў адслужаны адмысловы малебен за беларускі народ; прынагоднае казаньне сказаў а. Кунцэвіч. Быў прачытаны Маніфэст Рады БНР.

Неафіцыйная частка адбылася ў гасподзе сп. Гавенчыка, удала дарыхтаваная сп-нямі Лужынскай і Сіткоўскай.

У **Адэляйдзе** 30 сакавіка ўрачыстую багаслужбу з малебнам за беларускі народ адправіў а. прат. Міхаіл Шурко. Увечары, пры ўдзеле вялікага ліку прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў, сп. П. Трысмакоў адчыніў сьвяточную акадэмію. Беларускі хор пяяў пад кіраўніцтвам сп. М. Буралома. Рэфэрат прачытаў сп. Левановіч. У мастацкай частцы выступалі: сп-ня С. Буралом (верш „Ты мой брат", песьня „Сваток"), брат і сястра Чарнагаловыя, сп. П. Ханеўскі (дэклямацыі), сп. сп. Зелянеўскі, Гігеліс (мастацкае чытаньне). На канчатак была пастаўленая п'еса „Суд", вельмі прыхільна сустрэтая. З нагоды сьвята было зыбрана 45 аўстралійскіх фунтаў на пабудову царквы.

У **Мэльбурне** шмат памагла ў наладжаньні сьвята атрыманая напярэдадні кніга „Дзень Незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 г.", асабліва ў дачыненьнях навонкі. У вадказ на кнігу былі прысланыя прыхільныя адказы з пажаданьнямі для Беларусаў.

Урачыстыя малебен за Беларусь быў адслужаны а. архімандрытам Мадэстам. Акадэмію адчыніў сп. У. Сідлярэвіч, рэфэрат прачытаў сп. Мікуліч. На акадэміі было прачытана шмат прывітаньняў, прысланых з цэлага сьвету ад розных арганізацыяў, сваіх і чужых. Сп. М. Скабей прачытаў Маніфэст Рады БНР.

У мастацкая частцы была паказана інсцэнізацыя „Маці й сын" Я. Купалы. Урачыстасьць закончылася беларускім нацыянальным гымнам.

## 25 САКАВІКА У ПРЭСЕ

Паведамленьні ў англамоўнай і чужамоўнай прэсе Амэрыкі адчыніла — які добры прыклад беларускай моладзі! — адзінаццацігадовая вучаніца амэрыканскае школы Ганна Кажура сваім лістом у рэдакцыю ў нью-брансьвікаўскі штодзёньнік "The Daily Home News" (21. III. 58, б. 18), падаючы ў ім асноўныя факты й даты пра незалежнасьць Беларусі.

Украінскі штодзёньнік у Амэрыцы „Свабода" часта на першых балонах у сваіх пяцёх нумарох падаваў весткі й здымкі з прабегу беларускіх урачыстасьцяў, зь вялікай сымпатыяй адгукаючыся пра сваіх паўночных суседзяў. У сваёй перадавіцы (у штотыднёвым дадатку паангельску) „Свабода" пісала пра Беларусаў і Украінцаў: „Цяпер абодва народы знаходзяцца ў гэткім самым палажэньні — пад ботам савецка-расейскае акупацыі. Аднак, Украінцы й Беларусы маюць таксама й іншую супольную рэч — гэта іхнае змаганьне за сваю нацыянальную свабоду".

Украінскі тыднёвік „Народная воля", што выдаецца ў Скрэнтоне, Пэн., таксама ўшанаваў беларускае сьвята, зьмяшчаючы здымак б. Прэзыдэнта БНР П. Крэчэўскага й гістарычную зацемку (3. IV. 58).

Пра беларускія ўрачыстасьці ў Нью-Ёрку паведамілі няпярэдадні акадэміі ў гатэлі „Білтмор" "World-Telegram & Sun" (28. III. 58) і "Journal-American" (25. III. 58).

Польскі штодзёньнік „Новы Сьвят" у сваім сыботнім выданьні 29 сакавіка апублікаваў абшырны артыкул Г. Нямігі п. заг. „Беларускае сьвята незалежнасьці" з насьвятленьнем гістарычных падзеяў сорак год таму й цяперашняга стану беларускага вызвольнага руху.

Платная абвестка з дэтальнай праграмай абходу сараковых угодкаў незалежнасьці ў Нью-Ёрку была зьмешчаная ў „Новом Русском Слове" (27. III. 58).

Бясплатным артыкулам „прывітала" сараковыя ўгодкі БНР і манархістычная „Россия" — ды яшчэ вунь аж калі — 13 сакавіка, прыслужліва забягаючы падзеям наперад. Там нейкі І. Карынкевіч ледзь не на чверць газэты паставіў выцягнуць наверх „гістарычную праўду". Цьвік усяго ягонага разважаньня палягае на тым, што „беларускі сэпаратызм" стварылі Палякі й кайзэр Вільгельм. Гэта, бач, быў пачатак, а далей вось як паўстаў беларускі рух: „Представитель немецких „частных кругов" проф. Абихт... образовал Белорусскую Раду, начал издавать белорусскую еженедельную газету и напечатал им самим составленное белорусское правописание"...

„Нью-Ёрк Таймс" (31. III. 58) зьмясьціў апісаньне сакавіковых урачыстасьцяў у Нью-Ёрку пад загалоўкам „Вольная Беларусь з 1918 году спамінаецца тут". Вельмі сымпатычны артыкул, прысьвечаны беларускаму Дню Незалежнасьці, зьмясьціў таксама славацкі каталіцкі тыднёвік „Еднота" (26. III. 58).

## НА ДЗЕНЬ МАЦІ

Дзень Маці ёсьць сьвятам удзячнасьці й прызнаньня. Гэта ёсьць той дзень, калі кажны з нас, ці то пачуцьцём ці ўчынкам, маленькім падарункам, ці салодкай усьмешкай, выказвае падзяку сваёй Маці за ўзгадаваньне, ласку й апеку.

Гэта — сьвята для ўсіх узростаў. Але кажная асоба адчувае гэтае сьвята паросьнаму. Ягонаму. Яго адчувае пасвойму маленькая перадшкольная дзяўчына, што падносіць букет васількоў сваёй Маме. Яго адчувае выраслая асоба глыбей і больш балюча, бо яна цяпер разумее, ад якіх цяжараў і жорсткасьці, абыякавасьці ды часта несправядлівасьці гэтага сьвету, адгараджала яе матчына апека.

І калі дзіцё ў сваім захаваньні дый у выражэньні ўдзячнасьці сваёй Маці кіруецца пачуцьцём, што вырасла з факту неразлучнасьці ад першага мамэнту ягонага жыцьця, дык выраслая асоба ўжо можа розумам ацаніць веліч адданасьці й любові Маці.

І тут міжволі паўстае перад вачыма вобраз беларускае Маці, што гадавала й гадуе свае дзеці ў васабліва цяжкіх абставінах. Беларуская Маці, не зважаючы на вялікую матар'яльную нястачу, на няспрыяльныя палітычныя абставіны, — патрапіла ўзгадаваць свае дзеці ў духу глыбокай маралі, патрапіла прышчапіць ім высокія ідэі любові да свайго краю й свабоды. Сяньня мы бачым, як на Захадзе гаспадарства ды розныя грамадзкія арганізацыі памагаюць Маці ў узгадаваньні дзяцей. Беларуская Маці ніякай дапамогі ад нікога ня мела й вывязвалася ня горш, калі часта ня лепш. Мы ўдзячныя ёй за гады нашага маленства, што сяньня ўліваюць у нас ахвоту да жыцьця цёплымі успамінамі.

Дзень Маці — гэта сьвята ўдзячнасьці й прызнаньня, але чамат каму з нас гэта таксама сьвята напамінку. Бо ці-ж калі маленькая рожавая ручка працягвае нам букет кветкаў, ці-ж не адчувае кажная Маці падвойна цяжар адказнасьці за маленькую істоту, што ёй даверылася? Бо-ж у вялікай меры выпрабленьне характару гэтай маленькай істоты ляжыць у ейных руках. Ад яе залежыць, як за дзесяць ці дваццаць год ейнае дзіцё здолее сустрэць вымогі жыцьця. А вымогі жыцьця з году ў год усё цяжэйшыя з поступам тэхнікі ды мадэрнізацыяй пагляду. Важным заданьнем Маці — патрэба прышчапіць свайму дзіцяці вялікія агульна-людзкія й хрысьціянскія ідэялы, ідэялы, што твораць сапраўдных людзей, а ня толькі людзей з назову. Беларуская Маці на чужыне адчувае таксама асаблівы цяжар нацыянальнага ўзгадаваньня. Удома на Беларусі нацыянальнае ўзгадаваньне йшло ў вялікай меры з глебы, з асяродзьдзя. На чужыне дзіця можа атрымаць яго толькі ў сямейным коле. А пачынаецца яно ад матчыные казкі над калыскай, ад вершыка Якуба Коласа з „Каласкоў" і ад апавяданьня аб Рагнедзе, якая таксама пачала гадаваць свайго сына на чужыне, а выгадавала на слаўнага князя полацкага.

Дык прысьвяцем нашыя думкі ў сяньняшні дзень нашай Маці. Ды ўспомніма асабліва пра тую Маці, што чакае нашага звароту ў Родны Край.

## НА ПАНЯВОЛЕНАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

### РЭЛІГІЯ Й КАЛГАСЫ

Дзесяцігодзьдзямі бязбожны бальшавізм намагаецца выкараніць рэлігійнасьць у нашым народзе. Антырэлігійная акцыя ўзмоцнілася апошнім часам: выдаюцца кніжкі, чытаюцца лекцыі, абмяркоўваюцца даклады — і ўсё гэта робіцца з мэтай, каб навярнуць Беларусаў з рэлігіі хрысьціянскае ў „рэлігію" камуністычную.

На сходзе калгасу імя Дзяржынскага, Нясьвіскага раёну, дзе абмяркоўвалася кніга С. Худзякова „Што такое рэлігія", старшыня калгасу Расоўскі сказаў:

„Сярод калгасьнікаў ёсьць яшчэ веруючыя. Адны здаўна лічаць сябе праваслаўнымі, другія — каталікамі. Некаторыя сталі баптыстымі, пяцьдзесятнікамі. І што-ж атрымліваецца? Веруючыя штогоду сьвяткуюць не адзін дзесятак сьвят. А за гэтыя дні, калі-б усе веруючыя выходзілі на працу, калгас мог-бы дадаткова сабраць сотні гактараў збожжавых, накапаць сотні тон бульбы, вывезьці на палі шмат мясцовых угнаеньняў" („Зьвязда", 6. III. 58).

Але, мог-бы. Наш селянін **мог-бы**, памаліўшыся Богу, зрабіць усё ў сваім часе. Ды, на вялікі жаль: **„апанавалі чэрці месца сьвятое".**

### ЖАРТАЎЛІВАЕ Ў ТРАГІЧНЫМ

Савецкая прапаганда ўсьцяж крычыць аб дбаласьці й рупнасьці камуністычнае партыі пра „шчасьлівае" савецкае жыцьцё. Ведама-ж, у выніку вялікае дбаласьці й рупнасьці па Савецкім Саюзе раськінутая густая сетка канцлягераў зь дзесяткамі міліёнаў зьняволеных.

З гэтага гледзішча цікавая зацемка ў менскай „Зьвязьдзе" № 50 ад 28 лютага 58 году пад загалоўкам „Суд".

„Спэкулянтка самагонам маладая здаровая жанчына гор. Ліды Яніна Сушко з 1953 году нідзе не працавала. Яна спэкулявала самагонам. Скупляючы па 20 рублёў за літар, Сушко перапрадавала яго значна даражэй. Часта самагон расьпіваўся прама ў яе на кватэры. Народны суд гор. Ліды прыгаварыў спэкулянтку да пяцёх год пазбаўленьня волі".

Суд, відаць, не пацікавіўся тым, у каго Яніна Сушко купляла самагон, і хто яго піў. Барждзжэй за ўсё, што й судзьдзя лізаў тыя чаркі. З тых лістоў, якія рэдчас пранікаюць да нас нецэнзураваныя, відаць, што самагон на Беларусі — другі па бальшавіцкіх валадарох рэгулятар жыцьця. І першым чынам мясцовыя жыхары Беларусы ім пояць розных партыйных цівунаў і прыганятых, прысланых з Маскоўшчыны, не вылучаючы партыйных сакратароў „месткомаў, райкомаў, абкомаў". Самагон мае ўласьцівасьць адпушчаць туга закручану бальшавіцкую гайку.

Прыгадваецца жарт, расказваны як факт. У Рагачове на рынковым пляцы была пастаўленая статуя бальшавіка, які моцнымі рукамі паварочваў ключ, закручваючы гайку. Адзін селянін, стаўшы перад статуяй і сьцягнуўшы шапку, пачаў прасіць: „Таварыш, адпусьці хаця на поўнарэзіка, тута ўжо, дыхаць няма чым".

**Р-ны**

### БАЛЬШАВІЦКІЯ „ПРЫГОНЬНІКІ"

„Тав. Дзегялевіч — член партыі й старшыня калгасу „1 мая"... Па яго загаду шмат хто з калгасьнікаў аштрафаваны. Ён можа аблаяць калгасьніка, калі той зьвяртаецца па параду або із скаргай. Дзегялевіч адчувае сябе ў калгасе, як ва ўласнай вотчыне...

„Ведаюць у райкоме і аб тым, што Дзегялевіч акружыў сябе п'яніцамі й фактычна садзейнічае самагонакурэньню.

„Можна сказаць яшчэ, што Дзегялевіч, будучы старшынём калгасу імя Сталіна, а потым сельгасарцелі „Камсамолец", за кароткі час пабудаваў два дамы і прадаў іх па 20 тысяч рублёў кажны, а летась пабудаваў у раённым цэнтры Акцябр, які знаходзіцца за 30 кілямэтраў ад калгасу, новы — трэйці дом. Кажнаму зразумела, што й трэйці дом пабудаваны з тэй-жа спэкуляцыйнай мэтай, як і папярэднія два, бо сам старшыня жыве ў новым доме, які пабудаваны ў вёсцы Гарохавічы сіламі й сродкамі сельгасарцелі".

(„Зьвязда", 27. III. 58)

### НАФТА, СОЛЬ І ВУГАЛЬЛЕ Ў БЕЛАРУСІ

Менская „Зьвязда" за 12 красавіка сёлета ў вадказ на запытаньне аднаго з чытачоў паведаміла, што ў Прыпяцкім Палесьсі знойдзеныя залежы каменнага вугальля, што мае падабенства з данбаскім і падмаскоўскім. Цяпер вывучаюцца магчымасьці эксплятацыі гэтых залежаў.

Адначасна пацьверджаныя прагнозы аб залежах у Беларусі каменнай і калійнай соляў.

У Прыпяцкім Палесьсі знойдзеныя таксама залежы нафты, прамысловыя запасы якое, аднак, яшчэ не ўстаноўленыя.

## ВЯЛІКАЯ РАСЬЦІ, АНЯ!

У ваднэй зь немалога ліку пачаткавых школаў гораду Нью-Брансьвіку вучыцца маладая Беларуска Аня Кажура. Збоку гледзячы здаецца, што ў жыцьці Ані няма нічога надзвычайнага. Штодня яна рыхтуе свае лекцыі, штораньня сьпяшаецца ў амэрыканскую школу, а сыботамі Аня зьменьвае сваю штодзённую сьцежку й кіруецца ў мясцовую беларускую школку. І тут, у сувязі з гэтай школкай паўстае тое, аб чым належыцца адзначыць.

Аня, як вучаніца беларускае школкі, бярэ ўдзел у танцавальным гуртку ЗБМ. Першым народным танцам, які навучылася Аня, была нашая лявоніха. Апрача працы ў танцавальным гуртку, Аня бярэ актыўны ўдзел у жыцьці амэрыканскай школы. Калі там быў кінуты кліч — кажная кляса дае нешта да вечару вучнёўскае самадзейнасьці, дык Аня запрапанавала сваім амэрыканскім сяброўкам і сябром выступіць зь беларускай лявоніхай. Даўгімі месяцамі яна вучыла (толькі што сама навучыўшыся) нашу лявоніху. Змагалася з ужо асвоенымі Амэрыканцамі рухамі рок-эн-ролу ды вяла сваіх сяброў у жвавыя, але рытмічныя рухі лявоніхі.

На дзень выступу Аня напазычала сярод беларускага жыхарства нацыянальныя вопраткі. Чатыры пары паказалі вучням амэрыканскае школы беларускую лявоніху. Наступны паказ быў для настаўнікаў гораду Нью-Брансьвіку. Запрасілі Аню зь лявоніхай. Пайшло канкурэнцыйнае змаганьне із старымі амэрыканскімі, францускімі, шкоцкімі, гішпанскімі й інш. танцамі.

Настаўнікамі мела быць прызнана тры ўзнагароды за найлепшыя танцы. Найбольшай узнагародай малой Ані была ацэна амэрыканскіх настаўнікаў — нашая бадзёрая беларуская лявоніха атрымала першую ўзнагароду. І ня было ў

канец на 8 б.

## Ліст у рэдакцыю

**Высокапаважаны Спадару Рэдактару!**

**У сувязі з апублікаваньнем артыкулу „Пад развагу людзей добрае волі" у № 9 „Беларускае Царквы", Чыкага, прашу зьмясьціць наступнае**

**АСЬВЕТЧАНЬНЕ.**

**Нашая мудрая прыказка кажа: Калі Бог каго хоча пакараць, дык перш яму розум адыйме. Толькі гэткай адсутнасьцяй кроплі розуму, не гаворачы ўжо аб неразуменьні самых асноваў Навукі Хрыстовае, можна й вытлумачыць зьяўленьне падобнага артыкулу. Мы тут зусім ня зьбіраемся дыскутаваць з аўтарам артыкулу, бо як можна гаварыць з чалавекам, які Праваслаўную Веру й Царкву, што ад тысячы гадоў была, што ёсьць, і што навекі будзе сьвятою для абсалютнай бальшыні беларускага народу, бярэ ў двукосьсі й называе сэктаю.**

**І яшчэ адно. Часапіс, які абзывае праваслаўных сэктантамі, адначасна на першай балоне таго-ж нумару перадрукоўвае малітву праваслаўнага Уладыкі ў Амэрыканскім Сэнаце, без азначэньня ягонай царкоўнай прыналежнасьці, без аніякога запытаньня, а тымболыш без ягонае згоды.**

**Супраць гэткае нячуванае абразы нашае сьвятое Веры й Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы я станоўка пратэстую.**

**Зь любоўю ў Хрысьце,**
**† Архіепіскап Васілі**
**Нью-Ёрк, 18 травеня 1958 году**

Рэдакцыя з свайго боку выказвае зьдзіўленьне з тэй брутальнасьці й неталеранцыі, зь якімі „Бел. Царква" падыйходзіць да рэлігійных справаў, паміналючы нашыя добрыя традыцыі вольнага вызнаваньня рэлігіі.

**Увага!**

ГАЛОЎНАЯ УПРАВА ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ У АМЭРЫЦЫ

запрашае ўсё грамадзтва прыняць удзел у

**КОНКУРСЕ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ ВОПРАТКІ,**

які адбудзецца ў часе VII-га Гадавога зьезду ЗБМА ў днёх 30-31 жніўня (Labor Day) сёлета ў Нью Ёрку.

Конкурс падзелены на дзьве катэгорыі, мужчынскую й жаночую. Каштоўныя ўзнагароды ад шматлікіх арганізацыяў і прыватных асобаў.

**Галоўная Управа ЗБМА**

### ВЯЛІКАЯ РАСЬЦІ, АНЯ!

гэтым ніякай памылкі. Выявілася тут належная слушнасьць. Калі цяпер выступае ў Нью-Ёрку савецкая танцавальная група Майсеева з рэпэртуарам народных танцаў, дык з гэтай нагоды паважныя й салідныя амэрыканскія газэты з усяе праграмы выдзяляюць і асабліва ўвыдатняюць беларускі народны танец — „бульбу".

А Аня ня толькі гэтым выступам уславіла імя Беларусі. Яна мае за сабой і іншыя ўчынкі. З хатняга камплекту беларускіх кружэлак (а ейны тата купляе даслоўна ўсе беларускія кружэлкі) яна ўсе дэманстравала ў сваёй школе. У часе рэвалюцыйных падзеяў на Вугоршчыне кіраўніцтва школы зладзіла для вучняў адпаведны рэфэрат. І калі ў рэфэраце гэтым пералічваліся паняволеныя Масквой народы, Аня ўстала й папрасіла не абмінаць Беларусі, паясьніўшы аўдыторыі, што край ейных бацькоў — Беларусь — стогне, як і іншыя краі за зялезнай заслонай у ярме камуністычнае няволі.

Сёлета з нагоды 40-х угодкаў Сакавіка малая Аня зьмясьціла ў мясцовай амэрыканскай газэце зацемку аб гістарычных падзеях на Беларусі ў 1917-1918 гадох. Аня найпільнейшая вучаніца ў беларускай школцы, і яна, як Беларуска, стараецца ўславіць імя Беларусі.

Брава, малая Аня!

**У. Кабушка**

## ХРОНІКА

### ГАДАВЫ СХОД АДДЗЕЛУ БАЗА САЎТ-РЫВЕР—НЬЮ-БРАНСЬВІК

27 красавіка сёлета адбыўся справаздачна-перавыбарны сход сяброў аддзелу БАЗА Саўт-Рывер—Нью-Брансьвік (старшыня сходу — др. У. Набагез, сакратар — сп. А. Корбут). Кадэнцыя ўступаючае ўправы характарызавалася актыўнай дзейнасьцяй аддзелу: культурныя й прыбытковыя імпрэзы, сьвяткаваньні, супрацоўніцтва з акруговай і галоўнай управамі ў Нью-Ёрку. Асабліва актыўнай была Жаноцкая Сэкцыя аддзелу. Агульнае прызнаньне за сваю старэнную працу атрымаў скарбнік аддзелу сп. М. Каранеўскі (гадавы зварот касы аддзелу — больш за 3 тысячы даляраў).

За старшыню новае ўправы быў пераабраны йзноў сп. Я. Дубяга. У ўправу ўвайшлі таксама сп. сп. С. Гутырчык, Ч. Ханяўка, М. Войтэнка й П. Швэд; у рэвізійную камісію — сп. сп. Я. Азарка, В. Стома й П. Кулеш.

### БЕЛАРУСКІЯ СКОКІ НА МІЖНАЦЫЯНАЛЬНЫМ ФЭСТЫВАЛІ

Зь ініцыятывы арганізатараў Параду Ляяльнасьці, напярэдадні Параду, 22 красавіка ў Нью-Ёрку ў Лэйбор Тэмпл (14 вуліца) адбыўся міжнацыянальны канцэрт, на якім былі ўшанаваныя 40-ыя ўгодкі незалежнасьці Беларусі, Украіны, Эстоніі, Лацьвіі й Летувы, рэпрэзэнтаваных у праграме канцэрту паасобнымі групамі. Беларуская танцавальная група з ньюёркаўскага аддзелу ЗБМА, пад кіраўніцтвам сяброўкі Аллы Орсы, выканала „Крыжачка" й „Мікіту". Апрача спомненых пяцёх групаў, у канцэрце выступалі Чэхі, Вугорцы, Гавайцы, Ірляндцы й Гішпанцы.

Беларускія танцы мелі добры дасьпех.

### АСАБІСТАЕ

Ньюёркаўскі аддзел ЗБМА шчыра зычыць сваёй сяброўцы сп-чні Олі Захаркевіч, у сувязі зь ейным замуствам, шмат шчасьця й памыснасьці ў жыцьці. Сто год!

**Управа аддзелу**

### ГАДАВЫ СХОД ТАРОНЦКАГА АДДЗЕЛУ ЗБК

У нядзелю 2 сакавіка сёлета адбыўся гадавы сход таронцкага аддзелу ЗБК, на якім былі абмеркаваныя розныя пытаньні дзейнасьці аддзелу, а таксама была выбрана ўправа аддзелу ў складзе сп. сп. — Н. С. (старшыня), Я. Мышкоўская (сябра ўправы) і М. Кулешы (сябра ўправы). Адно із заданьняў аддзелу — дапамога ў працы Галоўнай Управе ЗБК.

### БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ТАНЦЫ НА ТЭЛЕВІЗІІ

Танцавальны гурток ЗБМА, аддзелу Нью-Ёрк, 12 красавіка ў сыботу ўзяў удзел у тэлевізійнай праграме „Полька Тайм", выканаўшы два беларускія танцы: „Крыжачка" й „Мікіту". Гэта быў першы выступ гэтага гуртка на тэлевізіі. Першы, але не апошні, — думаюць сабе нашыя маладыя танцоры.

### „ЧЫРВОНАЕ ЯЕЧКА" ЛДЯ ДЗЯЦЕЙ

Стараньнем Беларускае Жаноцкае Сэкцыі БАЗА (старшыня сп-ня М. Станкевіч) ў Нью-Ёрку ў нядзелю 20 красавіка ў Беларускім Цэнтры (140 Атлэнтык эвэню, Бруклін) было наладжанае „чырвонае яечка" з паказам у лялькавым тэатры „Аленкі ў зямлі дзіваў" з пачастункам ды з падарункамі для дзяцей.

### ПЕРШАЕ МЕСЦА БЕЛАРУСУ

У Кліўлендзе 14 сакавіка быў праведзены г. зв. „талент шоў" („паказ талентаў"), на якім даваліся ўзнагароды. Першае месца атрымаў беларускі школьнік, малады Юрка Лазар, вельмі здольны акардыяніст.

### ЗБОРНІК П'ЕСАЎ І ПЕСЬНЯЎ

Кліўлендзкі аддзел ЗБМА выдаў асобным зборнікам (рататар) пяць п'есаў і колькі песьняў. Зборнік можна набыць за 50 цэнтаў у ваддзеле ЗБМА ў Кліўлендзе (814 Брэйтон эвэню).



